● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

25 чэрвеня 1996 г.
аўторак, № 160
(22963)



# ЗВЯЗДА

## БАНКІ ЗАПРАЦУЮЦЬ З ПРЭМІЯМІ

Не так даўно Нацыянальным банкам Беларусі было дазволена працаваць шасці банкам рэспублікі з увядзеннем дылінгавай прэміі і дылінгавага збору. Зразумела, у пэўных колах гэтае рашэнне было ўспрынята зусім неадназначна: абмежаванні і размежаванні ў рабоце фінансавых устаноў ставілі апошнія ў розныя «вагавыя катэгоры». Падобна, незадаволенасць, якую выказалі з гэтай нагоды асобныя банкіры і аналітыкі, падзейнічала. 20 чэрвеня Нацыянальны банк разаслаў у камерцыйныя банкі тэлеграму, згодна з якой ім цяпер таксама дазваляецца ўвесці дылінгавую прэмію і дылінгавы збор. Такім чынам, з гэтага часу банкі пры пакупцы валюты могуць устанаўліваць прэмію ў памеры не вышэйшым за 13 працэнтаў, а пры продажы — збор не вышэйшы за 15 працэнтаў. Выплата прэмій павінна рабіцца ў беларускіх рублях.

**Ігар ГРЫШЫН.**

## ПА ПІНШЧЫНЕ ПРАНЁССЯ СМЕРЧ

Позняім вечарам 22 чэрвеня над пасёлкам Лагішын Пінскага раёна пранёсся смерч. Паводле звестак Белгідрамета, ён узнік на стыку цёплых і халодных паветраных мас і насіў лакальны характар. Смерч суправаджаўся моцным дажджом, парывы ветру перавышалі 20 метраў у секунду.

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў абласным штабе грамадзянскай абароны, ад стыхіі пацярпела 56 будынкаў, у тым ліку харчаблок мясцовай бальніцы і хлебапякарня. Парывамі ветру з іх былі сарваны дахі і выбіты вокны. Акрамя таго, разбурана каля двух кіламетраў ліній электраперадачы. Ахвяр няма.

На месца здарэння выехала спецыяльная камісія, якая вывучае маштабы вынікаў стыхіі. У пасёлку Лагішын вядуцца аднаўленчыя работы, ужо адноўлены тэлефонная сувязь, энерга- і водазабеспячэнне.

**Эдуард ПІВАВАР, БЕЛТА.**

## ПАДПІСКА ПРАЦЯГВАЕЦЦА

Сталі вядомы папярэднія вынікі падпіскі на рэспубліканскія перыядычныя выданні па стану на 19 чэрвеня. Як звычайна, перыяд летніх водпускаў крыху адбіўся на выніках падпіскі на трэці квартал. Але нам прыемна ўсведамляць, што большасць чытачоў «Звязды» засталіся з намі. Са свайго боку калектыў рэдакцыі зробіць усё магчымае, каб вы, нашы шаноўныя чытачы, не расчараваліся ў сваім выбары. Папярэднія ж вынікі на 19 число наступныя: **«Звязда» — 89.229,** «Народная газета» — 206.210, «Советская Белоруссия» — 186.488, «Рэспубліка» — 93.419, «Белорусская нива» — 92.428, «Чырвоная змена» — 49.270, «Знамя юности» — 14.795.

**Нагадваем вам, што падпіска на жнівень і да канца года працягваецца. Падпісная цана «Звязды» на 1 месяц складае 13.600 рублёў, на 5 месяцаў —68.000 рублёў. Памятайце: «Звязда» — гэта самая свежая і самая патрэбная інфармацыя.**

**Сяргей ПРОТАС.**

## «НАШЫ НАРОДЫ СПАКОН ВЕКУ БЫЛІ МОЦНЫЯ СВАІМ АДЗІНСТВАМ»

Дваццатае стагоддзе выдалася нялёгкім для народаў, якія насялялі адну шостую частку сушы, што яшчэ зусім нядаўна называлася Савецкім Саюзам: перажылі мы і войны, якія спусташаюць гарады і разараюць насельніцтва, і горыч паражэнняў, і радасць часам вельмі нялёгкіх перамог. Аднак за ўсю гісторыю існавання адзінай дзяржавы, якая любіць і ахвотна адзначае свае воінскія святы, у календары не знайшлося старонкі для дня, калі б нашчадкі маглі ўрачыста ўспомніць загінуўшых у баях за Айчыну воінаў. І толькі ў апошнія гады мы зразумелі, што бацькі і дзяды нашы заслужылі такую дату.

Сёлета прэзідэнты Расіі і Беларусі прынялі рашэнне аб арганізацыі сумеснай акцыі ў дзень 55-й гадавіны пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Так нарадзілася ідэя правядзення Дня агульнанароднай памяці і смутку. Паводле прызнання Барыса Ельцына, кіраўнікі дзвюх краін выбіралі месца, дзе намечаныя на 22 чэрвеня мерапрыемствы выглядалі б найбольш натуральна. Існавалі варыянты іх правядзення ў Маскве, Валгаградзе, іншых гарадах Супольніцтва. І ўсё ж вырашана было спыніцца менавіта на Брэсце — горадзе, дзе ў жорсткіх баях загінулі першыя савецкія воіны.

Урачыстыя мерапрыемствы на плошчы Цырыманіялаў Брэсцкай крэпасці пачаліся 22 чэрвеня яшчэ раніцай. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка пачаў гэты дзень з удзелу ў памінальнай літыі па ўсіх загінуўшых воінах, якая праходзіла ў Брэсцкай Свята-Нікольскай брацкай царкве на чале мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі. Пазней адбыўся мітынг, дзе, акрамя прэзідэнта, выступілі міністр абароны Рэспублікі Беларусь Леанід Мальцаў, прадстаўнікі мясцовых органаў улады і ветэраны вайны.

Аднак асноўныя падзеі разгарнуліся ў мемарыяле Брэсцкай крэпасці з прыбыццём туды ў другой палове дня прэзідэнта Расіі Барыса Ельцына. Ад імя патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Алексія ІІ благаславенне ўсім прысутным перадаў мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі. Затым слова ўзяў Аляксандр Лукашэнка, які падрабязна спыніўся ў сваёй прамове на гераічнай гісторыі Брэсцкай крэпасці і яе абаронцаў. «Наша агульная задача, — сказаў прэзідэнт рэспублікі, — пабудаваць лепшы свет, захаваць здабытую нялёгкай цаной свабоду, а значыць, у канчатковым выніку, — выканаць запавет бацькоў і дзядоў, якія загінулі ў баях за Айчыну». Закранаючы прэзідэнцкія выбары ў Расіі, Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што Барыс Ельцын перажывае цяпер нялёгкія дні, але ён упэўнены ў перавыбранні цяперашняга прэзідэнта на другі тэрмін, паколькі за ім не толькі воля большасці расійскіх выбаршчыкаў, але і падтрымка брацкага беларускага народа.

Святым днём для ўсіх славянскіх народаў назваў 22 чэрвеня кіраўнік расійскай дзяржавы Барыс Ельцын, які выступіў услед за прэзідэнтам Беларусі. «У чэрвені 41-га мы верылі ў перамогу і перамаглі. Цяпер наша задача — дабіцца дабрабыту на зямлі нашых продкаў», — сказаў расійскі прэзідэнт.

Асаблівую ўвагу ў сваім выступленні Барыс Ельцын удзяліў становішчу на Еўрапейскім кантыненце ў святле магчымага расшырэння блока НАТО на Усход. «Мы не хочам новага падзелу кантынента і рашуча выступаем за адзіную і мірную Еўропу», — сказаў прэзідэнт Расіі.

Ад імя ўсяго расійскага народа Барыс Ельцын усклаў вянок да Вечнага агню цытадэлі. Прэзідэнты дзвюх краін абмяняліся дублікатамі Сцяга Перамогі і Сцяга Брэсцкай крэпасці. Затым Аляксандр Лукашэнка і Барыс Ельцын сустрэліся з ветэранамі Вялікай Айчыннай вайны, якія выказалі сваю падтрымку курсу на далейшае збліжэнне дзвюх дзяржаў.

Пасля заканчэння ўрачыстай цырымоніі ў Брэсцкай крэпасці кіраўнікі дзвюх дзяржаў вярнуліся да абмеркавання надзённых праблем Супольніцтва Беларусі і Расіі. Пасля гутаркі «сам-насам», якая праходзіла ў часовай рэзідэнцыі прэзідэнта Расіі ў Брэсце, Барыс Ельцын і Аляксандр Лукашэнка прынялі ўдзел у пасяджэнні Вышэйшага Савета Супольніцтва.

Аб дасягнутых дагаворанасцях кіраўнікі дзяржаў паведамілі на кароткай прэс-канферэнцыі ў будынку Брэсцкага аблвыканкома.

Пасяджэнне Вышэйшага савета Супольніцтва прайшло па-дзелавому, хутка і вынікова, лічаць прэзідэнты. Важнейшым вынікам сумеснай работы можна назваць дагаворанасць аб тым, што бакі адмаўляюцца ад статусу іншаземца ў адносінах да грамадзян, якія прыбываюць на пастаяннае або часовае месца жыхарства з Беларусі ў Расію і наадварот. Гэта значыць, што дакументальна замацаваны роўныя правы грамадзян Супольніцтва на адукацыю, ахову здароўя, працаўладкаванне, абмен і атрыманне жылля.

Другім па значнасці рашэннем стала падпісанне пакета дакументаў аб стварэнні адзінага Мытнага камітэта Супольніцтва, узначальваць які даручана Анатолю Круглову. Мытны камітэт будзе выпрацоўваць адзіную мытную палітыку Супольніцтва і цэнтралізавана кіраваць мытнямі Расіі і Беларусі.

Прэзідэнты не абмінулі сваёй увагай і вострую для нашай рэспублікі тэму ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Расійскім бокам прынята рашэнне аб выдзяленні васьмі мільярдаў рублёў на рэалізацыю спецыяльнай праграмы, накіраванай на ліквідацыю вынікаў гэтай катастрофы ў Беларусі.

Вяртаючыся да асноўнай тэмы дня, прэзідэнты Расіі і Беларусі аб'явілі аб выдзяленні па 300 тысяч долараў з кожнага боку на рэстаўрацыю мемарыяла «Брэсцкая крэпасць-герой».

(Заканчэнне на 2-й стар.)



**На здымку**: *дэлегацыі Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі накіроўваюцца ў Брэсцкую крэпасць.*
**Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ, БЕЛТА.**

## АДНЫМ СКАЗАМ

Як паказаў аналіз чатырох месяцаў гэтага года, **працягвае зніжацца рэалізацыя нехарчовых тавараў** большасці таварных груп: істотна знізілася рэалізацыя адзення і бялізны — у 2 разы ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года, верхняга трыкатажу, скуранога, тэкстыльнага і камбінаванага абутку — з 4,3 да 2,45 працэнта.

Міндзяржмаёмасці працуе над палажэннем **аб зваротным абмене імянных прыватызацыйных чэкаў «Маёмасць»** на чэкі «Жыллё».

**Агульны аб'ём замежных інвестыцый** у беларускую хімічную прамысловасць на сённяшні дзень складае каля 90 мільёнаў нямецкіх марак.

Беларускі фонд Сораса плануе затраціць **на развіццё міжнароднай камп'ютэрнай сеткі «Internet» у** нашай рэспубліцы каля 500 тысяч долараў.

На 1 чэрвеня ў нашай краіне зарэгістравана 125 чалавек — **вірусаносьбітаў СНІДу**, у тым ліку і 6 дзяцей.

З 1 ліпеня НБ Беларусі ўстанавіў **адзіны нарматыў максімальнага памеру рызыкі** на аднаго пазычальніка (уключаючы міжбанкаўскі крэдыт) — не больш за 20 працэнтаў уласнага капіталу.

Нацбанк прапанаваў супрацоўнікам камерцыйных банкаў выказаць сваё меркаванне **наконт стратэгіі развіцця банкаўскай сістэмы** на перыяд да 2000 года.

З пачатку года ў рэспубліцы выяўлена **739 злачынстваў, якія звязаны з наркотыкамі** і іншымі моцна дзеючымі на арганізм чалавека рэчывамі.

Рашэннем Мінгарвыканкома **зменены кошт жылля для ўдзельнікаў долевага будаўніцтва** па УКБ: для юрыдычных і фізічных асоб устанаўліваецца разліковы кошт 1 кв. м жылля ў памеры 4160,7 тысячы рублёў, для будаўніцтва за кошт дзяржкрыніц — 4108,7 тысячы рублёў.

За тры месяцы бягучага года інспектары Камітэта рыбааховы Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя зафіксавалі **1466 фактаў незаконнай лоўлі рыбы,** аштрафавалі 1239 чалавек на суму каля 134 мільёнаў рублёў.

## У ДЗЕНЬ СМУТКУ АБЫШЛОСЯ БЕЗ ЭКСЦЭСАЎ

**Прызнаемся шчыра: многія меркавалі, што 22 чэрвеня — у дзень 55-й гадавіны пачатку Вялікай Айчыннай вайны — могуць паўтарыцца падзеі накшталт веснавых, калі адбываліся сутыкненні праваахоўных органаў з дэмакратамі. На шчасце, змрочныя прагнозы не спраўдзіліся.**

Прыкладна каля 11 гадзін да помніка Перамогі рушыла калона пад дзяржаўнымі і чырвонымі сцягамі. У ёй знаходзіліся ветэраны вайны, дэпутаты Вярхоўнага Савета (большасць з фракцыі камуністаў), жыхары раёнаў Міншчыны. Усклаўшы кветкі да помніка, дэманстранты накіраваліся ў парк Горкага, дзе прайшоў мітынг.

Пасля да помніка Перамогі накіравалася шэсце, ініцыятарам якога выступіў аргкамітэт акцыі «Народ супраць фашызму і таталітарызму». Над калонай, куды ўваходзілі ветэраны, актывісты незалежных арганізацый, БНФ, луналі бела-чырвона-белыя сцягі. Пасля ўскладання кветак людзі накіраваліся да опернага тэатра. На мітынгу, які там адбыўся, гучала асуджэнне фашызму і таталітарызму ў любых праявах.

**Міхась БЕРАСТ.**



**22 чэрвеня, у дзень памінання і смутку прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь Міхаіл Чыгір усклаў вянок да помніка-абеліска на плошчы Перамогі ў Мінску.**

**На здымку:** *у час ускладання.*

**Фота Генадзя СЯМЁНАВА, БелТА.**

*«ПРАМАЯ ЛІНІЯ»*

## «ВЫРАТАВАННЕ»

**«Звязда» і Беларускі дабрачынны фонд «Дзецям Чарнобыля» праводзяць сумесную акцыю па выяўленню і адпраўцы на аздараўленне за мяжу дзяцей, у першую чаргу з глыбінкі, якія атрымалі захворванні ў выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС і зусім альбо ў апошнія год-два не праходзілі лячэння.**

**Зварот «Звязды» выклікаў вялікую чытацкую пошту. Рэдакцыя і непасрэдна фонд атрымалі каля ста лістоў. Было і шмат званкоў. У ходзе правядзення акцыі ўзнікла процьма пытанняў. Ці ўсе дзеці паедуць на аздараўленне? Якія краіны будуць прымаць беларускіх хлопчыкаў і дзяўчынак? Які ўдзел у рабоце фонду прымаюць на грамадскіх пачатках бацькі і проста людзі, якім неабыякавы лёс нашых дзяцей?**

***На гэтыя і многія іншыя пытанні непасрэдна вам, паважаныя чытачы, заўтра, 26 чэрвеня, з 12 да 14 гадзін адкажа старшыня БДФ «Дзецям Чарнобыля» Генадзь Грушавы. «Прамую лінію» з ім «Звязда» праводзіць па тэлефонах: 32-38-92, 32-38-21.***

## «НАШЫ НАРОДЫ СПАКОН ВЕКУ БЫЛІ МОЦНЫЯ СВАІМ АДЗІНСТВАМ»

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

Як падкрэслівалася на прэс-канферэнцыі, усе рашэнні Вышэйшага савета Супольніцтва былі прыняты аднагалосна. Кіраўнікі дзвюх краін выказалі надзею, што ў далейшым уся работа гэтага міжурадавага органа будзе праходзіць у тым жа канструктыўным накірунку.

«Нашы народы спакон веку былі моцныя сваім адзінствам», — сказаў Барыс Ельцын, падводзячы вынікі сваёй сустрэчы з прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам. «Разам адолеўшы фашызм больш чым паўвека таму, толькі разам мы зможам пабудаваць грамадства, дзе вяршэнствавалі б свабода і гуманізм», — падкрэсліў ён.

І яшчэ аб адным трэба абавязкова сказаць. Па сутнасці не толькі тыя, хто прыйшоў на плошчу Цырыманіялаў у Брэсцкай крэпасці, стаў удзельнікам падзей, што праходзілі ў цытадэлі над Бугам. Дзякуючы тэлемарафону, што арганізавалі Беларуская нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія, міждзяржаўная тэлерадыёкампанія «Мір» і Брэсцкі аблвыканком, удзельніцай гэтых мерапрыемстваў стала ўся Беларусь. Сотні тысяч людзей не адыходзілі ў гэты дзень ад экранаў тэлевізараў. Дзякуючы тэлебачанню, у першую чаргу беларускаму, на якое і выпаў асноўны цяжар па асвятленню гэтых мерапрыемстваў, Дзень памяці і смутку стаў агульнанацыянальным днём.

*Брэст.*

**Вадзім МІЛІЦЫН, БЕЛТА.**

## ШТО ВЫЯВІЛА АПЕРАЦЫЯ «ЦЯГНІК»?

**Падведзены вынікі прафілактычнай праваахоўнай акцыі пад назвай «Цягнік», якая працягвалася цалую дэкаду (з 1 па 10 чэрвеня).**

Супрацоўнікам органаў унутраных спраў на транспарце МУС РБ разам з калегамі з транспартнай міліцыі Расіі і Украіны ўдалося раскрыць больш як 40 злачынстваў, 18 з якіх ідуць па лініі крымінальнага вышуку, 8 адносяцца да катэгорыі эканамічных злачынстваў і 16 — да сферы грузаперавозак. Адно крымінальнае злачынства, а менавіта згвалтаванне непаўналетняй, удалося раскрыць «па гарачых слядах». У цягніках і электрычках затрымана каля 200 парушальнікаў грамадскага парадку.

Як адзначыў начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі УУС на транспарце МУС РБ Віктар Рабаў, гэта другая з пачатку года такая аперацыя. Першая праведзена ў студзені і была звязана з раскрыццём кантрабанды наркотыкаў, якія ішлі транзітам праз Беларусь у Расію. Далейшыя аперацыі пакуль не плануюцца: іх прадыктуе час.

**Уладзімір ЦАСЮК.**

## У МІХАІЛА СУРКОВА ЁСЦЬ КАМПРАМАТ...

**На думку намесніка старшыні камітэта Дзярждумы Расіі па бяспецы і абароне Міхаіла Суркова, ніякай спробы перавароту ў Расіі не было, і палітыку такога ўзроўню, як Аляксандр Лебедзь, несалідна верыць у неправераныя плёткі.**

Міхаіл Суркоў адзначыў, што для Аляксандра Лебедзя і прэзідэнта Ельцына павінна быць зняважлівым тое, што перамены, якія адбыліся, пракаменціраваў на прэс-канферэнцыі «адзін з самых несумленных палітыкаў» Анатоль Чубайс. «Увесь свет ведае, -- заўважыў агенцтву «Аргументы и факты-Новости» дэпутат, -- што гэта такое. Не хто, а што гэта такое. Я абсалютна згодны з Юрыем Лужковым, які назваў Чубайса буйнейшым злачынцам прыватызацыі». Суркоў сцвярджае, што яго камітэт мае ўсе кампраметуючыя Чубайса матэрыялы і прадставіць іх, калі гэта спатрэбіцца. У тым ліку і дакументы, у якіх гаворыцца, «дзе і колькі сродкаў у замежных банках мае пан Чубайс».

**«АиФ — Новости».**



Сыпаў дробны дождж, сцішана ніклі клёны ўздоўж галоўнага праспекта Мінска, а па мокрым асфальце ішлі і ішлі людзі са схіленымі сцягамі ў руках.

Гэтыя сцягі былі рознымі, і людзі думалі неаднолькава. Агульным для ўсіх быў цяжкі смутак, агарнуўшы зямлю, якая першай прыняла на сябе ўдар вайны.

Мала хто з гэтых людзей пабачыў тую вайну на свае вочы — за мінулыя паўстагоддзя паднялося не адно пакаленне. Былая партызанская сувязная Лідзія Трафімаўна Ялінская-Новікава больш за іншых затрымалася ля Вечнага агню на плошчы Перамогі. Прынесены ёю сціплы букет стаў непрыметнаю кропляю ў моры кветак ля абеліска героям.

Гэтае мора нарэшце-такі аб'яднала ў сабе вянкі, ускладзеныя рознымі партыямі, рухамі, аб'яднаннямі. Людзі пачалі ўсведамляць, што не трэба шукаць розныя плыні ў акіяне нашай памяці. Асабліва калі гэтая памяць агорнута агульнанародным смуткам.

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**
**(Фота аўтара.)**

*МЕРКАВАННЕ*

# НЕ Ў СІЛЕ ПРАЎДА, А Ў РОЗУМЕ

**Гадавіна пачатку фашысцкага нашэсця стала падставай для актывізацыі палітычных сіл**

Апасенні тых, хто прадказваў, што масавая акцыя апазіцыі 22 чэрвеня ператворыцца ў чарговы этап абвастрэння канфрантацыі з уладамі, — на шчасце, не спраўдзіліся.

Жалобную 55-ю гадавіну нацысцкага ўварвання розныя палітычныя сілы ў Мінску, як звычайна ў апошні час, адзначалі пад рознымі лозунгамі і сцягамі. Гарадскім уладам на гэты раз хапіла разважнага сэнсу не чыніць перашкод ні тым, ні другім, і абмежаваць свой удзел у акцыях падтрыманнем грамадскага парадку і каардынацыяй дзеянняў з арганізатарамі шэсцяў і мітынгаў.

Міжволі напрошваюцца аналогіі з мінулай гарачай мітынговай вясной. І 24 сакавіка, і 2 красавіка, і 26 красавіка ў многім менавіта вялікае жаданне ўладаў любой цаной не дапусціць правядзення дэманстрацый урэшце прыводзіла да сутыкнення маніфестантаў з міліцыяй, масавых арыштаў і затрыманняў, хвалі скандальных публікацый у расійскім і заходнім друку, пратэстаў з боку сусветных праваабарончых арганізацый.

І наадварот: іншая тактыка, накіраваная на падтрыманне карэктных адносінаў з апазіцыйнымі сіламі, прыводзіць да зусім іншых вынікаў. Мітынговая энергія выпушчана, мірная маніфестацыя не прыкавала да сябе пільнай увагі замежнай прэсы. Нават антыпрэзідэнцкія лозунгі і прамовы, якія гучалі на мітынгу, у выніку цярпімых да іх адносінаў з боку ўлады прынясуць хутчэй не шкоду, а карысць Прэзідэнту, паколькі прадэманструюць, што свабода слова і сходаў у Беларусі, нягледзячы на ўсе выдаткі, усё ж не з'яўляецца пустым гукам: апазіцыйныя лідэры маюць магчымасць выкладаць сваю пазіцыю.

22 чэрвеня ні камуністычнае шэсце, ні шэсце пад бела-чырвона-белымі сцягамі не вызначаліся вялікай масавасцю. І ў тым, і ў другім мерапрыемстве ўдзельнічала, паводле розных прыблізных ацэнак, па 3—5 тысяч чалавек. Такім чынам, як і можна было чакаць, лета ў Беларусі наўрад ці будзе адзначана прыметнай палітычнай і грамадскай актыўнасцю.

Апазіцыя і незалежныя прафсаюзы прагназіруюць абвастрэнне ўвосень, якая, паводле меркавання многіх незалежных эканамістаў, будзе суправаджацца складанай эканамічнай сітуацыяй, ростам беспрацоўя і масавымі затрымкамі зарплаты. Такога разгортвання падзей, сапраўды, можна чакаць. І для тых, хто адказвае за парадак у горадзе, у такой сітуацыі тым больш важна засвоіць урокі мітынговай вясны і зрабіць для сябе важную выснову: з дапамогай сілы спрабаваць пагасіць энергію натоўпу — значыць толькі ўскладняць становішча і правакаваць новыя масавыя выступленні.

Дзень 22 чэрвеня быў адзначаны яшчэ адной значнай падзеяй — кароткатэрміновым візітам у Брэст Прэзідэнта Расіі Барыса Ельцына.

Сам факт гэтага візіту ў многім развеяў сцвярджэнні тых, хто ў апошні час гаварыў пра сур'ёзныя рознагалоссі ці нават канфлікт паміж расійскім і беларускім лідэрамі. З другога боку, некаторыя выказванні Барыса Ельцына падчас прэс-канферэнцыі ў Брэсце пацвердзілі, што пэўныя супярэчнасці ў адносінах паміж прэзідэнтамі існуюць. Расійскі лідэр недвухсэнсоўна даў зразумець, што чакае гарманізацыі эканамічных пераўтварэнняў у Расіі і Беларусі. Прытым тое, што рэформы ў Беларусі стрымліваюцца і наша краіна адстае ў гэтай галіне ад Расіі, было пададзена як відавочны факт.

Такім чынам, Барыс Ельцын у своеасаблівай форме паказаў беларускаму кіраўніцтву, у якім напрамку давядзецца ісці Беларусі ў выпадку яго, Ельцына, перамогі 3 ліпеня на прэзідэнцкіх выбарах у Расіі.

У прамове на жалобных урачыстасцях у Брэсцкай крэпасці Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі многія назіральнікі вылучылі тую частку выступлення, у якой беларускі лідэр адзначыў станоўчую ролю Польшчы і польскага народа ў разгроме фашызму. Магчыма, гэта першы крок да таго, каб згладзіць супярэчнасці апошняга часу ў беларуска-польскіх адносінах.

**Валянцін ЖДАНКО.**

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

# ЦІ БЫЎ «ГКЧП-3»?

Гучная, як стрэл, сенсацыя новага сакратара Савета бяспекі Расіі А. Лебедзя аб «ГКЧП-3» маланкай абляцела на тым тыдні ўвесь свет. Аб чым ішла гаворка?

Аб тым, што генерал самым рашучым чынам ліквідаваў змову часткі сталічнага генералітэту. А гэтую чорную справу рыхтавала група блізкіх да Грачова людзей. Лебедзем былі названы іх імёны. Яны вядомыя прэсе. Але сенсацыяй нумар два было імя журналісткі Алены Агапавай. Як жанчына аказалася ў адной кампаніі з генерал-палкоўнікамі? Можа, яна там іграла ролю сучаснага Распуціна? У спадніцы... Думаеце, жарт?

Але Лебедзь у палітыцы не любіць жартаваць. Тым больш ствараць міфы. Як пацвярджэнне гэтага — амаль павальная адстаўка магутных чыноўнікаў маскоўскага алімпу — А. Каржакова, М. Барсукова, А. Саскаўца.

Дык што ж адбылося ў Мінабароны? Афіцыйна вядома толькі тое, што пасля рапарту аб адстаўцы, якая была прынята Ельцыным у Крамлі, экс-міністр Грачоў сабраў у сваім кабінеце тых, хто яшчэ тыдзень назад называўся «камандай». Гэта была тайная нарада. Пакуль невядома, якую інфармацыю мае новы шэф Савета бяспекі, але тое, што побач з генераламі названа звычайная журналістка Алена Агапава, сапраўды дзіўна.

Дасье на яе, якое маюць сёння нямногія журналісты, пралівае святло на падзеі ў кабінеце П. Грачова. Дык хто яна, Алена Агапава, якой знянацку выпаў гонар звярнуць на сябе ўвагу першага памочніка расійскага прэзідэнта па пытаннях бяспекі і нават самога Б. Ельцына?

Амаль 20 гадоў журналістка непрыкметна працавала ў газеце «Красная звезда». У 1992 годзе яе выпадкова заўважыў П. Грачоў і запрасіў да сябе прэс-сакратаром. Праз нейкі час яна стала самым давераным чалавекам у акружэнні міністра. Тут дзіўнага нічога няма: нягледзячы на вялізны штат памочнікаў, у Грачова не было ні аднаго хоць бы больш-менш здольнага журналіста, які мог бы прафесіянальна афармляць яго думкі. Агапава ж мела «бойкае» пяро, што дазволіла ёй прыручыць амбіцыйнага Героя Расіі. Першае, што яна зразумела, — Грачова нельга пускаць да шматлікай журналісцкай грамады. Бо той часта такое «ляпаў»... І сакратарка знайшла арыгінальнае выйсце. Да мінімуму абмежавала кантакты Грачова з прэсай, старанна адбіраючы на сустрэчы з «лепшым міністрам усіх часоў» толькі самых надзейных пісак. Пад яе кіраўніцтвам рыхталіся спецыяльныя агляды прэсы, без яе дазволу і правак у рукі міністра не трапляла ні адно выступленне. Нават для службовых нарад, пасяджэнняў, калегій. Толькі Агапава мела права ў любы час уваходзіць у кабінет маршала. Яна не раз умешвалася ў работу Генштаба, галоўных упраўленняў. Без Агапавай не абыходзілася ні адна сакрэтная нарада. Нават у памятную кастрычніцкую ноч, калі ў прысутнасці Ельцына і Чарнамырдзіна вырашалася пытанне аб штурме Белага дома, Агапава падслухоўвала размову ў пакоі адпачынку міністра — за дзвярыма. Той, хто спрабаваў паставіць Агапаву на месца, паплаціліся пасадай. Сярод іх вядомыя генералы Б. Громаў, Г. Кандрацьеў, В. Міронаў. Пасварыла яна Грачова з яго першым намеснікам А. Какошыным, начальнікам Генштаба генерал-палкоўнікам М. Калеснікавым.

Сітуацыя добра знаёмая. Камусьці не хочацца ісці ў адстаўку, камусьці з чыноўнікаў не хочацца сёння, напярэдадні другога тура галасавання, сказаць праўду аб генеральскай змове, да якой маюць дачыненне людзі з блізкага акружэння Ельцына.

Малаверагодна, што Лебедзь мог ляпнуць «абы-што», тым больш стварыць нейкі міф. Значыць, былі сур'ёзныя падставы для яго падобнай заявы. Вакол міністра П. Грачова доўгі час стваралася лакейская атмасфера.

У расійскай гісторыі ўжо былі Распуціны. Праўда, у спадніцы яшчэ не было...

**Леанід ФАДЗЕЕЎ.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

**ГРЭЦЫЯ Ў ЖАЛОБЕ**

Грэцыя ў жалобе з нагоды смерці былога прэм'ер-міністра краіны Андрэаса Папандрэу, які памёр у нядзелю на 77-м годзе жыцця ў сваім доме ў Афінах. Цяпер вырашаецца пытанне, хто стане пераемнікам Папандрэу на чале яго партыі. Паведамляецца, што найлепшыя шанцы мае цяперашні прэм'ер Сімітыс. Пахаванне Андрэаса Папандрэу адбудзецца ў сераду.

**НІ АДЗІН ЧАЛАВЕК ПАКУЛЬ НЕ ВЫЗВАЛЕНЫ**

Рабочыя групы на расійска-чачэнскіх перамовах абмяняліся спісамі прапаўшых без вестак. У расійскі спіс унесена 1089 чалавек; у чачэнскі -- 1322. Сяргей Осіпаў, адказны сакратар камісіі па ваеннапалонных і прапаўшых без вестак у Чачні, якая сфарміравана пры прэзідэнце Расіі, у інтэрв'ю СМІ сказаў, што бакі ўзялі на сябе абавязацельства праверыць спісы і сустрэцца зноў 28 чэрвеня. У рамках дамоўленасці, што была падпісана 10 чэрвеня ў Назрані, ні адзін чалавек пакуль не быў вызвалены.

**ПРАГНОЗЫ ЧАСТА НЕ ЗБЫВАЮЦЦА...**

Паводле даных апытання грамадскай думкі, Барыс Ельцын амаль на 20 працэнтаў апярэджвае свайго саперніка Генадзя Зюганава за 10 дзён да другога тура прэзідэнцкіх выбараў. Згодна з вынікамі апытання, за Ельцына маюць намер прагаласаваць 53 працэнты выбаршчыкаў, за Зюганава -- 34 працэнты. Нагадаем, што прадказанні, зробленыя на падставе апытанняў грамадскай думкі перад першым турам выбараў, істотна адрозніваліся ад вынікаў выбараў.

**КІТАЙ «ПАКРЫЎДЗІЎСЯ» НА КІНКЕЛЯ**

Міністр замежных спраў Германіі Кінкель выказаў шкадаванне з нагоды рашэння кітайскага кіраўніцтва адкласці яго візіт у Пекін, запланаваны на ліпень. Ён падкрэсліў, што падтрымлівае права бундэстага крытыкаваць Кітай за парушэнне правоў чалавека ў гэтай краіне. У чацвер парламент Германіі прыняў рэзалюцыю з асуджэннем Кітая за сур'ёзныя парушэнні правоў чалавека ў Тыбеце. Сам Кінкель некалькі дзён назад сказаў, што падчас свайго візіту ў Пекін ён уздыме пытанне пра становішча ў Тыбеце.

**ІЗРАІЛЬ ВЫНАЙШАЎ СПОСАБ СПЫНІЦЬ РАКЕТЫ «ХЭЗБАЛАХ»**

У бліжэйшы час Ізраіль правядзе выпрабаванні лазернай сістэмы супрацьпаветранай абароны, якая можа быць выкарыстана супраць ракет тыпу «Кацюша», якія выкарыстоўваюць баевікі «Хэзбалах». Лазерная сістэма пад назвай «Наўцілус», распрацаваная сумесна Ізраілем і ЗША, на думку спецыялістаў, зможа абараніць паўночныя раёны краіны.

**ПАЎНОЧНАЯ КАРЭЯ РАСПРАЦОЎВАЕ ПЛАН «МАЛАНКАВАЙ ВАЙНЫ»**

Міжнародныя наглядальнікі лічаць, што страшны эканамічны крызіс і голад на поўначы могуць падштурхнуць Пхеньян да ўварвання ў Паўднёвую Карэю. На поўначы нагнятаецца ваенны псіхоз, выношваюцца планы захопу Сеула на працягу першых сутак з пачатку ваенных дзеянняў і ўсёй Паўднёвай Карэі -- за адзін тыдзень. Напаляюць страсці ваенныя правакацыі з Поўначы. У арсенале Паўночнай Карэі маюцца моцныя хімічныя сродкі і ракеты.

**Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», Радыё 101,2 і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.**

КАРЭСПАНДЭНТ ВЫЕХАЎ НА МЕСЦА

# «ДЖЭНТЛЬМЕНСКАЯ РАЗМОВА ПА ШЧЫРАСЦІ»,

## або Як яе разумеюць у Смаргонскім пагранатрадзе

**«Звязда» не раз ужо пісала пра жорсткасць у войску. Адзін з такіх выпадкаў, калі нестатутныя адносіны прывялі да смерці радавога Ядыкіна. І вось зараз — новая трагічная гісторыя. Яе расказаў бацька салдата. Ён прыйшоў па дапамогу. Са скупымі мужчынскімі слязамі ў вачах пачаў расказваць...**

### Не хадзіў бы ты, сынок, у салдаты

У чацвер, 12 чэрвеня, у вёску Стайкі Валожынскага раёна Ліпніцкім прыйшло пісьмо ад сына з войска, дзе ён апісваў сваё жыццё-быццё, трохі скардзіўся, як і ўсе пачынаючыя службу салдаты, на спякоту ды недахоп яды. Прасіў прыехаць, каб пабачыцца. Бацькі пачалі збірацца ў дарогу. Калі ехаць напрамкі ад вёскі да часці, дзе нёс службу сын, то выходзіць зусім недалёка — дзесьці каля гадзіны. Як не пабачыць роднае дзіця! Прымчаліся бацькі ў суботу раніцай да КПП ужо недзе к адзінаццаці гадзінам, спыталі пра радавога Ліпніцкага. Дзяжурны папрасіў пачакаць і праз нейкі час паведаміў, што іх сын знаходзіцца ў санчасці «ў нехадзячым стане». «У нас з маці, — расказвае бацька салдата Браніслаў Браніслававіч Ліпніцкі, — адразу падкасіліся ногі і ў грудзях з'явіўся камяк». Вядома ж — такія звесткі атрымаць нечакана-нягадана!

Далей, зразумела, Ліпніцкія пасля некаторай збянтэжанасці ўсё ж знайшлі ў сабе сілы папытаць, ці хутка іх пусцяць да сына. У адказ пачулася: «Хутка». Гэта «хуткасць» вылілася амаль у дзве гадзіны (!) пакутлівага чакання.

Калі ж са Смаргоні прыехаў дзяжурны па часці, то нават не падышоў да Ліпніцкіх, а на КПП ім сказалі пачакаць яшчэ. Заплаканыя бацькі працягвалі несці сваю трагічную «вахту». Праз нейкі час яны ўсё ж здолелі ўбачыць сына — іх падвезла прыехаўшая са Смаргоні санінструктар: радавога Ліпніцкага прывялі пад рукі з другога паверха па прыступках два салдаты. Маці адразу кінулася да хлопца, пачала цалаваць, але сын яе проста не пазнаў. А калі яны засталіся сам-насам, пачаў нешта мармытаць і толькі праз пэўны час як бы апрытомнеў...

«Ён сядзеў роўна, падобна да манекена, і амаль нічога не гаварыў, — расказвае пра сустрэчу бацька, — толькі рукі дужа трымцелі». На пытанні наконт таго, што з ім здарылася, спачатку адказваў: «Упаў... упаў і стукнуўся». Але бацькі, вядома, не паверылі і даведаліся аб падзеях, якія ўклалі іх сына на бальнічны ложак, — салдата жорстка, на горкі яблык збілі. На далейшыя роспыты ён амаль не адказваў. Да таго ж санінструктар прапанавала прайсці да намесніка камандзіра часці па тылу падпалкоўніка Баброўскага. Той пацікавіўся пра здароўе радавога Ліпніцкага, асабліва чамусьці пра ныркі, і параіў бацькам адвезці сына ў смаргонскую бальніцу, каб зняць пабоі. Санінструктар у сваю чаргу ім адмовіла, спаслаўшыся на тое, што ў выхадныя патрэбных урачоў можа і не быць, і прапанавала з'ездзіць да начальніка санчасці маёра Мурашкі. Куды яны і адправіліся. Той іх выслухаў і... пачаў папракаць бацькоў, што яны выправілі ў войска хворага сына. Ліпніцкія, сцяўшы зубы (вось вясковая цярплівасць!) дамовіліся з маёрам аб сустрэчы ў аўторак дзесьці каля адзінаццаці гадзін. Начальнік санчасці сказаў, каб бацькі прынеслі санітарную картку сына для вызначэння стану яго здароўя на момант прызыву. На гэтым і разышліся.

### Ёсць такая прафесія — радзіму ахоўваць!

Эдзік Ліпніцкі меў светлую мару дзяцінства: ён хацеў стаць не касманаўтам і не ўрачом, не металургам і не прэзідэнтам, а звычайным беларускім афіцэрам. Па словах бацькі, сын з маленства вызначаўся дысцыплінай і нейкай асаблівай вытрымкай — нават адзежу сам сабе адрамантуе і памые. Да таго ж і вучобай цешыў бацькоў — адны «чацвёркі» і «пяцёркі». Заўсёды дапамагаў і па гаспадарцы, яна ў Ліпніцкіх не асабліва вялікая, але пабудавана з разлікам на сям'ю, якая складае сем чалавек. Браніслаў Браніслававіч і Антаніна Аляксееўна маюць пяцёра дзяцей!

Любіў Эдзік ваенную форму. Як прыйшоў старэйшы брат з войска, дык усё апранаў кіцель з фуражкай ды хадзіў па хаце. Боты, бывала, наваксуе, хоць ты глядзіся ў іх, як у люстэрка. Цешыў бацькоў ды і сябе марай аб ваеннай кар'еры. Але пасля заканчэння школы (без «троек») падаў дакументы ў Беларускі дзяржаўны універсітэт на гістарычны факультэт. Два экзамены сдаў на «выдатна», два — на «добра», але не прайшоў па конкурсу. На другі год усё ж вырашыў здзейсніць мару дзяцінства і паспрабаваў паступіць у ваенную акадэмію. Але і тут недацягнуў — на апошнім экзамене атрымаў нездавальняючую адзнаку і зноў вярнуўся да бацькоў у родныя Стайкі. І да прызыву ў войска пасвіў калгасны статак, шмат чытаў і марыў пра будучыню. Жадаў наперакор усім недарэчнасцям стаць афіцэрам.

Адпраўку ў войска (адбылося гэта ў студзені мінулага года) адзначалі як і належыць — уся стайкаўская моладзь пабывала тым вечарам у хаце Ліпніцкіх, усім былі рады, частаваліся, танцавалі. Трапіў Эдзік у так званы мабільны гарнізон пагранічных войскаў у Пінск.

Недарэчнасці з радавым Ліпніцкім пачаліся пасля таго, як яму на трэніроўцы зламалі нос і адправілі ў Пастаўскі ваенны шпіталь. У працэсе абследавання ўрачы нечакана выявілі, што Эдуард па стану здароўя не павінен несці службу ў пагранічных войсках Рэспублікі Беларусь, і адправілі яго ў... вайсковую часць Смаргонскага пагранічнага атрада. Гэты факт, вядома, выклікае не толькі здзіўленне, але і абурэнне: адмовілі ў службе ў пагранічных войсках і зноў жа ў пагранічныя войскі і пераправілі?

Так радавы Эдуард Браніслававіч Ліпніцкі дзесьці ў пачатку чэрвеня трапіў у размяшчэнне адной з в/ч Смаргонскага пагранатрада, адкуль і прыйшло да бацькоў першае пісьмо...

### Дзе ж праўда?

У аўторак, 18 чэрвеня, дзесьці а палове другой гадзіны дня разам з Браніславам Браніслававічам Ліпніцкім да КПП падышоў і карэспандэнт «Звязды». Адразу скажу — чакалі ажно да трох гадзін.

І ўсё ж дачакаліся. Я, вядома, адразу запатрабаваў тлумачэнняў наконт таго, што адбылося. Тлумачэнні «з'явіліся» ў выглядзе маёра Мурашкі (памянёнага вышэй у расказе бацькі) з папкай дакументаў, з якіх я, на сваё здзіўленне, даведаўся, што ў гэтай справе, аказваецца, існуе і другая праўда, прадстаўленая малодшым сяржантам Самусікам, радавым Яблонскім і яшчэ некаторымі салдатамі.

Па іх словах, справа выглядае наступным чынам: радавы Ліпніцкі ў ноч з 8 на 9 чэрвеня, аказваецца, лазіў па кішэнях у сяржанта Самусіка. Гэты факт зафіксаваў радавы Яблонскі, які быў дняўальным. Малодшы сяржант, хоць ён малодшы толькі на словах, а на справе аказаўся хлопцам не з баязлівага дзесятка, падышоў да Ліпніцкага дзесьці дні праз два пасля здарэння і пачаў высвятляць лёс сваіх як бы прапаўшых грошай. Вынікам гэтай «джэнтльменскай размовы па шчырасці» з'явілася з'яўленне на целе радавога Ліпніцкага мноства чорна-сініх пісягоў.

Усё б і абышлося для Самусіка, але Эдзік чамусьці зваліўся ў непрытомным стане ў наступны дзень на разводзе і быў дастаўлены ў санітарную часць. Усё б было і на гэтай стадыі «добра» — маўляў, з кім не бывае няшчасных выпадкаў. Але, як снег на галаву, з'явіліся бацькі і пачалі своеасаблівае расследаванне. І тут пачало выяўляцца, што, мяркуючы па заявах Яблонскага, Самусіка і яшчэ траіх салдатаў, ён — ледзь не закаранелы «шчыпач». З гэтай сітуацыі ўжо для збітага Ліпніцкага запахла смажаным, г. зн. абвінавачаннем у крадзяжы з усімі адсюль шматлікімі вынікамі. Аказваецца, пляма «шчыпача», як паведамілі ў сваіх заявах салдаты, цягнецца за Эдзікам аж з Пінска, дзе ён таксама як бы быў «нядобранадзейным». Самае цікавае — форма заяў: «Са слоў Яблонскага мне стала вядома, што Ліпніцкі лазіў па кішэнях у малодшага сяржанта Самусіка...» і гэтак далей. Адзін нават напісаў так: «...і я паверыў, таму што і ў Пінску з ім было такое». Што гэта, браточкі, — містэрыя, жудасная праўда, падлог? Для многіх з нас, цывільных (дазволю сабе такі выраз), усе гэтыя жудасці знаёмыя па зладзеях з «Санта-Барбары» ці «Трапіканкі». А тут...

Самы красамоўны дакумент — медыцынская характарыстыка Ліпніцкага. Тут расказваецца ўся праўда пра стан здароўя салдата. Ён — і лунатык, і склеротык, і ледзь не патэнцыяльны пацыент псіхбальніцы. Памянёна таксама закрытая чэрапна-мазгавая траўма (ЗЧМТ), якую бытцам бы Ліпніцкі перанёс некалі. А як жа тады словы бацькі, які нічога пра гэта не ведае?

Таксама высветлілася, што Эдзік вельмі пакутаваў ад галаўных боляў — ляжаў і ў бальніцы, і да экстрасенса ў Мінск ездзіў. Праводзілі з ім сеансы ажно некалькі месяцаў, можа, і дапамагло — болі зніклі. «Наогул я яго здаровым у войска адпраўляў», — запэўніў Ліпніцкі-бацька. Так, бо калі Эдзік такі хворы, то чаму яго наогул узялі на службу ў войска, ды яшчэ ў мабільны гарнізон? Як тады ён праходзіў медыцынскую камісію, калі паступаў у ваенную акадэмію?

Вось такі ён — Эдзік Ліпніцкі, чалавек з дзвюма праўдамі: шчырай бацькоўскай і нейкай злобнай вайсковай. Добры, адданы сын — і «шчыпач», які стаў лазіць па салдацкіх кішэнях.

### ...Гэта я — Эдзік Ліпніцкі

Эдзік Ліпніцкі паўстаў перада мной звычайным стрыжаным хлопцам з журботным позіркам і нейкай асуджанасцю ў постаці. Да таго ж яму загадалі паказаць пісягі, каб не было нявырашаных пытанняў. Грудзі ўсе ў жоўта-бурых плямах, слёзы ў вачах. Калі ўсе выйшлі, я запытаўся пра тое, што здарылася, непасрэдна ў збітага. Ліпніцкі спачатку доўга не мог пачаць гаварыць, захліпаючыся слязьмі. Потым усё ж сабраўся і расказаў пра тое, што яго «проста хацелі павучыць». Малодшы сяржант Самусік падышоў да Эдзіка пасля адбою і запатрабаваў, каб той зрабіў «варана» (г. зн., вісеў бы як мага больш на спінках ложкаў, не датыкаючыся нагамі да падлогі). Ліпніцкі адмовіўся — пачалася бойка, да якой (на баку Самусіка) падключыўся радавы Дубоўскі.

«Яны ж толькі на паўгода старэйшыя за мяне, — гаварыў Ліпніцкі, — я не павінен ім падпарадкоўвацца». На пытанне: а каму павінен, Эдзік ужо не адказаў — пачаліся нервовыя дрыжыкі. Відаць, у такім стане ён і пісаў сваю заяву пра тое, што здарылася, бо бацька проста не пазнаў почырк сына — нейкія незразумелыя іерогліфы. «Я ніколі нічога ні ў кога не браў, — амаль крычаў праз слёзы Эдзік, — нехта сказаў ім, што я «шчыпач» яшчэ на наступную раніцу, калі нічога начальству не было вядома, яны і пачалі паміж сабою дамаўляцца, як бы мяне «заваліць».

Згарэла светлая мара дзяцінства Эдзіка Ліпніцкага — цяпер яму войска ўяўляецца зусім не ў ружовым колеры. На «губе» сядзіць зараз сяржант Самусік — галоўны яго «апанент». У казарме ў яго таксама няма сяброў. Выгнанец. Ды яшчэ злодзеем зрабілі і ледзь не сімулянтам.

### Працяг будзе...

З фактамі гэтай справы павінна разабрацца Беларуская ваенная пракуратура, куды бацька салдата падаў напісаную слязьмі заяву. Можа, яна канчаткова расставіць усе кропкі ў адносінах да радавога Ліпніцкага, адпраўленага бацькамі служыць у войска, а не пад уладу сяржантаў. Да таго ж і начальства часці зацікаўлена ў тым, каб зразумець прычыны здарэння і знайсці нейкае выйсце. Таму мы вернемся да гэтай гісторыі праз нейкі час.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

# ХОЧАШ АТРЫМАЦЬ ДЗЯРЖУЛАСНАСЦЬ — АТРЫМАЙ СПАЧАТКУ ЧЭК

**Першага ліпеня 1996 года заканчваецца апошні тэрмін выдачы сертыфікатаў імянных прыватызацыйных чэкаў «Маёмасць». Аб гэтым паспяшаўся напомніць намеснік міністра па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі Васіль Некрашэвіч у час сваёй нядаўняй сустрэчы з журналістамі.**

Не ўсе грамадзяне вырашылі выкарыстаць права на атрыманне чэкаў, хоць тэрмін іх выдачы прадаўжаўся двойчы. Але нават прадаўжэнне тэрмінаў выдачы чэкаў не прывяло да 100-працэнтнага станоўчага выніку. Паводле сцвярджэння намесніка міністра, з заявамі аб налічэнні чэкаў у камісіі звярнуліся 74 працэнты грамадзян. Як вядома, тэрмін падачы заяў скончыўся 30 красавіка бягучага года і гэты паказчык ужо застаецца нязменным. Аднак апасенні Міндзяржмаёмасці выклікае той факт, што атрымалі чэкі крыху больш за палову грамадзян (51 працэнт) з тых, хто мае на гэта права. Васіль Некрашэвіч заўважыў, што ўдзел у чэкавай прыватызацыі з'яўляецца ледзь не адзінай магчымасцю людзей бясплатна атрымаць ва ўласнасць дзяржаўную маёмасць. Тым, каму чэкі ўжо налічаны, засталося толькі да першага ліпеня пабываць у аддзяленні Ашчадбанка па месцы пражывання і атрымаць адпаведны сертыфікат, папярэдне заплаціўшы дзяржпошліну (0,15 мінімальнай заработнай платы). Міндзяржмаёмасці спадзяецца, што ў апошні тыдзень да заканчэння тэрміну выдачы чэкаў насельніцтва праявіць актыўнасць у атрыманні сертыфікатаў і гэты паказчык складзе не менш як 70 працэнтаў.

Што рабіць з ужо налічанымі чэкамі?

Як вядома, кожны жыхар Беларусі мае поўнае права абмяняць свае чэкі ў любым аддзяленні Ашчадбанка на акцыі акцыянерных таварыстваў. Цяпер аддзяленні Ашчадбанка прапануюць да 60 назваў акцый розных арганізацый. Па індывідуальнаму выбару заключаецца дагавор з пэўным акцыянерным таварыствам і туды пералічваюцца чэкі. У выніку жыхар рэспублікі, атрымліваючы сертыфікат, становіцца ўладальнікам пэўнага пакета акцый гэтага прадпрыемства.

Як жа адбываецца абмен чэкаў на акцыі?

Калі толькі чэк уваходзіў у абарачэнне, ён каштаваў 25 тыс. рублёў (да дэнамінацыі). У сувязі з тым, што ў мінулым годзе прайшла пераацэнка чэкаў з каэфіцыентам 14,93, кошт яго «ўзрос» да 35 тысяч рублёў. Паводле слоў Васіля Некрашэвіча, абмен чэкаў на акцыі адбываецца па ўстаноўленай кратнасці. Так, калі акцыянернае таварыства ствараласся ў 1994 годзе, а акцыя па наміналу каштавала 10 тыс. рублёў, чэк — 2,5 тыс. руб., то і кратнасць роўная 4 чэкам за адну акцыю. Калі прадпрыемства рэарганізавана ў 1995 годзе, то, натуральна, і кошт маёмасці ўжо пераацэнены. У гэтым выпадку пры цане акцыі ў 100 тыс. руб. кратнасць яе да чэка будзе роўная прыкладна адзін да трох. Такая кратнасць пры абмене чэкаў на акцыі будзе захоўвацца для насельніцтва і ў далейшым.

Некаторыя ўладальнікі «ваўчэраў» палічылі за лепшае ўкласці іх у акцыі спецінвестфондаў. Спецінвестфонды ў сваю чаргу могуць набываць акцыі акцыянерных таварыстваў на біржах і аўкцыёнах.

Існуе і трэці шлях выкарыстання чэкаў. Пры куплі аб'екта камунальнай уласнасці на аўкцыёне 50 працэнтаў пачатковага кошту маёмасці павінна быць аплачана прыватызацыйнымі чэкамі. Гэта, бадай, пакуль самы эфектыўны спосаб выкарыстання чэкаў «Маёмасць». Як для працоўных калектываў, так і юрыдычных асоб, якія купляюць гэтыя аб'екты.

Паводле даных Міндзяржмаёмасці, на сённяшні дзень 516 прадпрыемстваў уключана ў пералік аб'ектаў рэспубліканскай уласнасці, якія выказалі жаданне ісці па шляху акцыяніравання. Гэты спіс можа папаўняцца штодзённа.

**Сяргей КУРКАЧ.**



# У САЮЗА ЖУРНАЛІСТАЎ — СВОЙ УЛАСНЫ ДОМ

У бязвыплатнае карыстанне перададзены Саюзу журналістаў нашай рэспублікі вядомы ўсім работнікам сродкаў масавай інфармацыі будынак па вуліцы Румянцава, 3 у Мінску. Такое распараджэнне падпісаў 21 чэрвеня Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка.

Як вядома, Саюз размяшчаецца ў гэтым катэджы ў цэнтры сталіцы даўно, але да распараджэння кіраўніка дзяржавы грамадская арганізацыя яго арандавала.

**БЕЛТА.**

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск — | 4.38 | 21.45 | 17.07 |
| Віцебск — | 4.19 | 21.44 | 17.25 |
| Магілёў — | 4.27 | 21.34 | 17.07 |
| Гомель — | 4.34 | 21.22 | 16.48 |
| Гродна — | 4.55 | 21.59 | 17.04 |
| Брэст — | 5.05 | 21.50 | 16.45 |

### МЕСЯЦ

**Першая квадра 24 чэрвеня**

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Ануфрыя, Пятра, Анны, Арсенія**
**К. Дароты, Вільгельма**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, кароткачасовыя дажджы. Тэмпература ў Гродне — 14—16, Мінску, Брэсце, Віцебску — 15—17, Магілёве, Гомелі — 16—18 градусаў.

У наступныя двое сутак: 26-га па паўднёва-усходняй палавіне, 27-га — па большай частцы тэрыторыі дажджы. Тэмпература ўначы 26-га — 5—10, 27-га — 7—12, удзень — 14—19 градусаў цяпла.

### МЕДЫЦЫНСКІ ПРАГНОЗ НАДВОР'Я НА 25 ЧЭРВЕНЯ

Надвор'е будзе вызначацца полем паніжанага атмасфернага ціску. Паніжэнне тэмпературы паветра, рост ціску прывядуць да фарміравання статыстычнага тыпу надвор'я. У такіх умовах пагоршыцца самаадчуванне ў метэазалежных хворых з жоўцекамянёвай і гіпертанічнай хваробамі, бранхіяльнай астмай, стэнакардыяй.

Рэкамендуецца пазбягаць фізічных і псіхаэмацыянальных нагрузак, прытрымлівацца дыеты з пераважным ужываннем вітамінізаванай раслінная ежы, рабіць цёплыя гідрапрацэдуры і самамасаж шыйна-плечавога пояса, прымаць заспакаяльныя і сасударасшыральныя сродкі.

**Антаніна КАРОЗА,**
**навуковы супрацоўнік БелНДІ кардыялогіі.**

# ПАСТАНОВА

## ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Аб прадастаўленні зямельных участкаў

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Адабраць зямельныя ўчасткі агульнай плошчай 0,8 га паш з зямель калгаса «Ленінская іскра» Аршанскага раёна і прадаставіць гэтыя ўчасткі Аршанскаму прадпрыемству водаправодна-каналізацыйнай гаспадаркі для будаўніцтва артэзіянскіх свідравін.

2. Адабраць зямельныя ўчасткі агульнай плошчай 1,2 га з зямель землеўладальніка і землекарыстальніка ў Дзяржынскім раёне, у тым ліку:

калгаса імя Фалько — 1,0 га ворнай зямлі;

ДРБУ № 210 — 0,2 га (0,1 га сенажацей і 0,1 га іншых угоддзяў).

Прадаставіць гэтыя ўчасткі вайсковай часці 30151 для будаўніцтва і абслугоўвання жылых дамоў.

3. Адабраць зямельны ўчастак плошчай 3,1 га (1,5 га ворнай зямлі і 1,6 га іншых угоддзяў) з зямель саўгаса «Пціч» Мінскага раёна і прадаставіць гэты ўчастак у карыстанне на ўмовах арэнды тэрмінам на 25 гадоў сумеснаму беларуска-італьянскаму прадпрыемству «КАРЛ-ВАСП» для будаўніцтва дрэваапрацоўчай вытворчасці.

4. Адабраць зямельныя ўчасткі агульнай плошчай 27,4 га з зямель землеўладальнікаў і землекарыстальніка ў Салігорскім раёне і прадаставіць гатыя ўчасткі вытворчаму аб'яднанню «Беларуськалій» для будаўніцтва ачышчальных збудаванняў, пад'язной аўтамабільнай дарогі і інжынерных камунікацый, у тым ліку:

калгаса «Прамень камуны» — 2,2 га ворнай зямлі ў часовае карыстанне (тэрмінам да 2 гадоў);

калгаса «Чырвоная зорка» — 12,8 га (5,5 га ворнай зямлі, 6,7 га паш, 0,1 га пад дарогамі і 0,5 га іншых угоддзяў) у пастаяннае карыстанне і 6,2 га ворнай зямлі ў часовае карыстанне (тэрмінам да 2 гадоў);

сялянскай гаспадаркі М. Г. Аніхоўскага — 0,3 га (0,2 га ворнай зямлі і 0,1 га пад дарогамі) у пастаяннае карыстанне і 2,5 га ворнай зямлі ў часовае карыстанне (тэрмінам да 2 гадоў);

сялянскай гаспадаркі А. А. Дрызгаловіча — 0,9 га ворнай зямлі ў часовае карыстанне (тэрмінам да 2 гадоў);

сялянскай гаспадаркі С. Л. Мельнікава — 0,9 га ворнай зямлі ў часовае карыстанне (тэрмінам да 2 гадоў);

сялянскай гаспадаркі Г. С. Харжэўскага — 0,9 га ворнай зямлі ў часовае карыстанне (тэрмінам да 2 гадоў);

Чапялёўскага сельскага Савета дэпутатаў — 0,7 га (0,1 га пад дарогамі і 0,6 га іншых угоддзяў) у пастаяннае карыстанне.

Зямельныя ўчасткі, што адводзяцца ў часовае карыстанне, калі міне патрэба (але не пазней тэрміну, на які яны прадастаўляюцца), падлягаюць вяртанню былым землеўладальнікам у стане, прыгодным для выкарыстання ў якасці ворнай зямлі.

5. Адабраць зямельныя ўчасткі агульнай плошчай 4,8 га з зямель землекарыстальніка і землеўладальніка ў Смалявіцкім раёне і прадаставіць гэтыя ўчасткі навукова-вытворчаму малому прадпрыемству «Сатурн-1» для будаўніцтва комплексу па перапрацоўцы сельскагаспадарчай прадукцыі, артэзіянскай свідравіны, пад'язной аўтамабільнай дарогі і інжынерных сетак, у тым ліку:

Пекалінскага сельскага Савета дэпутатаў — 3,4 га (3,3 га ворнай зямлі і 0,1 га пад дарогамі) у пастаяннае карыстанне і 1,3 га (0,9 га ворнай зямлі і 0,4 га іншых угоддзяў) у часовае карыстанне (тэрмінам да 1 года);

ляснога фонду лясоў першай групы ў квартале № 14 Драчкаўскага лясніцтва Смалявіцкага лясгаса Мінскага ВЛГА — 0,1 га зямель, пакрытых лесам, у пастаяннае карыстанне.

Адвядзенне зямельнага ўчастка, пакрытага лесам, праводзіцца без права высечкі лесу.

Зямельныя ўчасткі, што адводзяцца ў часовае карыстанне, калі міне патрэба (але не пазней тэрміну, на які яны прадастаўляюцца), падлягаюць вяртанню Пекалінскаму сельскаму Савету дэпутатаў, у тым ліку 0,9 га ў стане, прыгодным для выкарыстання ў якасці ворнай зямлі, і 0,4 га пад дарогамі і дварамі.

6. Адабраць зямельны ўчастак плошчай 8,5 га (3,6 га ворнай зямлі, 4,8 га паш і 0,1 га пад каналамі) з зямель калгаса імя Кірава Гомельскага раёна і прадаставіць гэты ўчастак у часовае карыстанне (тэрмінам да 6 гадоў) Гомельскаму хімічнаму заводу для будаўніцтва пад'язной аўтамабільнай дарогі і пад кар'ер для здабычы гліны.

Адводзімы зямельны ўчастак, калі міне патрэба (але не пазней тэрміну, на які ён прадастаўляецца), падлягае вяртанню калгасу імя Кірава ў стане, прыгодным для выкарыстання ў якасці паш (2,1 га) і пад вадаём (6,4 га).

7. Адабраць зямельны ўчастак плошчай 38,0 га (30,9 га ворнай зямлі, 2,3 га паш і 4,8 га іншых угоддзяў) з зямель эксперыментальнай базы «Тулава» Віцебскага раёна і прадаставіць гэты ўчастак у часовае карыстанне (тэрмінам да 6 гадоў) віцебскаму адкрытаму акцыянернаму таварыству «Кераміка» пад кар'ер для здабычы гліны.

Адводзімы зямельны ўчастак, калі міне патрэба (але не пазней тэрміну, на які ён прадастаўляецца), падлягае вяртанню эксперыментальнай базе «Тулава» ў стане, прыгодным для выкарыстання ў якасці ворнай зямлі (33,2 га) і пад вадаём (4,8 га).

8. Адабраць зямельны ўчастак плошчай 1,5 га ворнай зямлі з зямель эксперыментальнай базы «Ганусава» Нясвіжскага раёна і прадаставіць гэты ўчастак мнагапрофільнаму малому прадпрыемству «Нестар» для будаўніцтва вытворчай базы.

9. Адабраць зямельны ўчастак плошчай 3,4 га ворнай зямлі з зямель калгаса «Гарняк» Салігорскага раёна і прадаставіць гэты ўчастак вытворчаму аб'яднанню «Беларуськалій» для расшырэння аб'яднанага шламасховішча.

10. Адабраць зямельны ўчастак плошчай 3,9 га (3,2 га ворнай зямлі і 0,7 га зямель, пакрытых лесам) з зямель калгаса імя Фалько Дзяржынскага раёна і прадаставіць гэты ўчастак у часовае карыстанне (тэрмінам да 5 гадоў) механізаванаму кар'еру «Чаркасы» трэста «Дарбудіндустрыя» для здабычы лясчана-гравійнай сумесі.

Адводзімы зямельны ўчастак, калі міне патрэба (але не пазней тэрміну, на які ён прадастаўляецца), падлягае вяртанню калгасу імя Фалько ў стане, прыгодным для выкарыстання ў якасці ворнай зямлі.

11. Адабраць зямельныя ўчасткі агульнай плошчай 101,8 га зямель землеўладальнікаў Мінскага раёна і прадаставіць гэтыя ўчасткі Мінскаму гарвыканкому для будаўніцтва жылых мікрараёнаў «Чырвоны Бор-1, 2», пазаквартальных сетак і збудаванняў дажджавой каналізацыі мікрараёнаў «Чырвоны Бор-1, 2» і «Сухарава-4, 5, 6», у тым ліку:

калгаса імя Калініна — 20,4 га (18,7 га ворнай зямлі, 0,5 га балот і 1,2 га іншых угоддзяў) у пастаяннае карыстанне і 3,4 га (2,4 га ворнай зямлі і 1,0 га іншых угоддзяў) у часовае карыстанне (тэрмінам да 3 гадоў);

саўгаса «Ждановіцкі цяплічны камбінат» — 66,3 га (19,0 га ворнай зямлі, 2,6 га сенажацей, 38,1 га паш і 6,6 га іншых угоддзяў) у пастаяннае карыстанне і 11,7 га (10,6 га паш і 1,1 га іншых угоддзяў) у часовае карыстанне (тэрмінам да 3 гадоў).

Зямельныя ўчасткі, што адводзяцца ў часовае карыстанне, калі міне патрэба (але не пазней тэрміну, на які яны прадастаўляюцца), падлягаюць вяртанню былым землеўладальнікам у стане, прыгодным для выкарыстання ў сельскай гаспадарцы (13,1 га ў якасці сельскагаспадарчых угоддзяў).

12. Адабраць зямельны ўчастак плошчай 1,7 га ворнай зямлі з зямель калгаса імя Калініна Мінскага раёна і прадаставіць гэты ўчастак гаражна-будаўнічаму кааператыву «Малінаўка» для будаўніцтва індывідуальных гаражоў.

13. Адабраць зямельныя ўчасткі агульнай плошчай 125,3 га з зямель землеўладальнікаў Талачынскага раёна, у тым ліку:

сельскагаспадарчага калектыўнага прадпрыемства «Радзіма» — 124,7 га (107,4 га сенажацей, 8,3 га хмызнякоў, 6,9 га пад вадой і 2,1 га іншых угоддзяў);

саўгаса «Рыдамлянскі» — 0,6 га (пад вадой).

Прадаставіць гэтыя ўчасткі ў часовае карыстанне (тэрмінам да 10 гадоў) торфабрыкетнаму заводу «Усвіж-Бук» для здабычы торфу на паліва.

Адводзімыя зямельныя ўчасткі, калі міне патрэба (але не пазней тэрміну, на які яны прадастаўляюцца), падлягаюць вяртанню былым землеўладальнікам у стане, прыгодным для выкарыстання ў сельскай гаспадарцы (89,2 га ў якасці сельскагаспадарчых угоддзяў).

14. Адабраць зямельныя ўчасткі агульнай плошчай 57,1 га з зямель землеўладальнікаў Буда-Кашалёўскага раёна, у тым ліку:

саўгаса «Шлях Ільіча» — 45,5 га (27,8 га сенажацей і 17,7 га іншых угоддзяў);

саўгаса «Чачора» — 11,6 га (10,5 га сенажацей і 1,1 га іншых угоддзяў).

Прадаставіць гэтыя ўчасткі ў часовае карыстанне (тэрмінам да 10 гадоў) торфапрадпрыемству «Беліцкае» для здабычы торфу на паліва.

Адводзімыя зямельныя ўчасткі, калі міне патрэба (але не пазней тэрміну, на які яны прадастаўляюцца), падлягаюць вяртанню ва ўстаноўленым парадку былым землеўладальнікам у стане, прыгодным для выкарыстання ў сельскай гаспадарцы (54,9 га ў якасці сельскагаспадарчых угоддзяў).

15. Адабраць зямельны ўчастак плошчай 2,7 га сенажацей з зямель сельскагаспадарчага калектыўнага прадпрыемства «Крутагор'е» Дзяржынскага раёна і прадаставіць гэты ўчастак забеспячэнска-вытворчаму аб'яднанню «Камунальнік» для будаўніцтва станцыі па тэхнічнаму абслугоўванню і рамонту тэхнікі.

16. Адабраць зямельны ўчастак плошчай 2,7 га ворнай зямлі з зямель калгаса імя Калініна Мінскага раёна і прадаставіць гэты ўчастак таварыству з абмежаванай адказнасцю «Белэкспрэс» для будаўніцтва вытворчай базы і пад'язной аўтамабільнай дарогі.

17. Адабраць зямельны ўчастак плошчай 4,6 га (4,5 га паш і 0,1 га іншых угоддзяў) з зямель калгаса «Кобрынскі» Кобрынскага раёна і прадаставіць гэты ўчастак у часовае карыстанне (тэрмінам да 5 гадоў) дзяржаўнаму вытворча-гандлёваму прадпрыемству «Ляпесы» пад расшырэнне кар'ера для здабычы гліны.

Адводзімы зямельны ўчастак, калі міне патрэба (але не пазней тэрміну, на які ён прадастаўляецца), падлягае вяртанню калгасу «Кобрынскі» ў стане, прыгодным для выкарыстання пад вадаём.

18. Адабраць зямельныя ўчасткі агульнай плошчай 1,3 га зямель землеўладальнікаў і землекарыстальніка Мінскага раёна, у тым ліку:

калгаса імя Калініна — 0,5 га (0,4 га ворнай зямлі і 0,1 га балот);

ляснога фонду лясоў першай групы ў квартале № 47 Мінскага лясніцтва Мінскага леспаркгаса — 0,6 га ворнай зямлі;

ДРБУ № 194 вытворчага рамонтна-будаўнічага аб'яднання «Мінскаблдарбуд» — 0,2 га іншых зямель.

Прадаставіць гэтыя ўчасткі закрытаму акцыянернаму таварыству «ІНТЭКС» для будаўніцтва пад'язной аўтамабільнай дарогі да аўтамабільнага рынку.

19. Адабраць зямельны ўчастак плошчай 5,3 га, пакрыты лесам, з зямель ляснога фонду лясоў з асаблівым рэжымам лесакарыстання (лесапаркавая частка зялёнай зоны г. Бярозы) у кварталах №№ 150 і 164 Бронна-Горскага лясніцтва Івацэвіцкага лясгаса Бярозаўскага раёна і прадаставіць гэты ўчастак у часовае карыстанне (тэрмінам да 5 гадоў) арэнднаму прадпрыемству «Бярозаўскі камбінат сілікатных вырабаў» пад кар'ер для здабычы пяску.

Адвядзенне зямельнага ўчастка праводзіцца з правам высечкі лесу. Драўніна, якая атрымліваецца ад высечкі лесу, рэалізуецца Івацэвіцкім лясгасам ва ўстаноўленым парадку.

Адводзімы зямельны ўчастак, калі міне патрэба (але не пазней тэрміну, на які ён прадастаўляецца), падлягае вяртанню Івацэвіцкаму лясгасу ў стане, прыгодным для выкарыстання пад вадаём.

20. Урон, прычынены землеўладальнікам і землекарыстальнікам адабраннем зямельных участкаў, а таксама страты сельскагаспадарчай і лесагаспадарчай вытворчасці пакрываюцца ва ўстаноўленым парадку.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ.**

6 чэрвеня 1996 г., г. Мінск.
№ 361-XIII

### АБ СЯРЭДНЯМЕСЯЧНАЙ ЗАРАБОТНАЙ ПЛАЦЕ РАБОЧЫХ І СЛУЖАЧЫХ

Мінстат Рэспублікі Беларусь паведамляе, што сярэдняя заработная плата рабочых і служачых у маі 1996 года склала 1.211.780 рублёў (у красавіку была 1.143.002 рублі). У студзені—маі 1996 года яна склала 1.122.191 рубель і павялічылася ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года ў 1,9 раза.

**Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь.**

*КЛУБНЫЯ НАВІНЫ*

### ПРАБЛЕМЫ БІЗНЕСУ НА СЕСІІ І ПА-ЗА ЁЙ

**Як мы ўжо паведамлялі раней, Вярхоўны Савет Беларусі прыняў у першым чытанні Закон «Аб стварэнні новых працоўных месцаў і павышэнні вытворча-гаспадарчай актыўнасці насельніцтва». Старшыня Камісіі па эканамічнай палітыцы і рэформах Васіль Шлындзікаў адзначыў тады, што абмеркаванне гэтага законапраекта было даволі складаным, паколькі дакумент мае адкрыта рыначны і нават рэфарматарскі змест, што не можа задаволіць многіх парламентарыяў. Ёсць нават дэпутаты, якія лічаць гэты закон асабістай патрэбай беларускіх «капіталістаў».**

Падзеі таго дня непасрэдна пераклікаюцца з тэмай чарговага пасяджэння Парламенцкага клуба, якое ўжо па добрай традыцыі адбылося ў сталічным кафэ «Белая вежа» і прайшло ў форме «круглага стала». Яно было прысвечана заканадаўчай падтрымцы малога і сярэдняга бізнесу ў Беларусі. Таму нічога дзіўнага, што пасяджэнне было надзвычай мнагалюдным: на яго прыбылі не толькі прадпрымальнікі і бізнесмены з абласных цэнтраў краіны, але і з Расіі. Акрамя таго, прысутнічалі прадстаўнікі міністэрстваў фінансаў, эканомікі, кіравання дзяржмаёмасцю, Адміністрацыі Прэзідэнта, Генеральнай пракуратуры і Вышэйшага гаспадарчага суда. Пасля кароткага прывітальнага слова старшыні Парламенцкага клуба Вячаслава Кебіча і яго намесніка Сямёна Домаша з дакладам выступіў зноў жа Васіль Шлындзікаў. Вядома, каму як не старшыні Камісіі па эканамічнай палітыцы і рэформах найлепш ведаць стан спраў у згаданай сферы ды бліжэйшыя планы парламента, накіраваныя на паляпшэнне сітуацыі ў айчынным прадпрымальніцтве?! Што ж датычыцца выступоўцаў, то, нягледзячы на тое, што кожны больш гаварыў пра сваё, набалелае, яны не аспрэчвалі, а, наадварот, усяляк віталі пазітыўныя змены на заканадаўчым узроўні ў дачыненні да малога і сярэдняга бізнесу. Здаецца, не аспрэчвалі гэтага ні прадстаўнікі міністэрстваў, ні Адміністрацыі Прэзідэнта. Памочнік кіраўніка дзяржавы Аляксандр Сазонаў нават паведаміў погляд Прэзідэнта на сённяшнюю сітуацыю і некаторыя задумкі выканаўчай улады ў гэтым накірунку. Падтрымка і разумны падыход да праблем беларускага прадпрымальніцтва, ва ўсялякім разе, быў абяцаны.

Калі казаць пра вынікі «круглага стала», то яны хутчэй тэарэтычныя, чым практычныя. Перш за ўсё парламентарыі ў чарговы раз пераканаліся, што развіццё і падтрымка айчыннага бізнесу — жыццёвая неабходнасць. Мяркуецца, што больш падрабязная гутарка на ўзнятую тэму пройдзе падчас рэспубліканскага форуму, ідэя правядзення якога абмяркоўвалася на пасяджэнні Парламенцкага клуба. А для яго падрыхтоўкі і наогул для каардынацыі супрацоўніцтва заканадаўцаў, выканаўчай улады і прадпрымальнікаў прапанавана стварыць пастаянна дзеючую групу.

І ўжо крыху не па тэме. На пасяджэнні Парламенцкага клуба яго члены павіншавалі з юбілеем старшыню Вячаслава Кебіча і акрамя звычайных падарункаў паднеслі яму велізарны торт, які тут жа і быў пушчаны «ў расход» з благаслаўлення юбіляра. Дарэчы, на мінулым пасяджэнні членамі Парламенцкага клуба сталі яшчэ некалькі чалавек.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

### ПАСТАНОВА

**Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

**Аб узнагароджанні Зайцава П. К. Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

За шматгадовую плённую працу ў фінансавых органах, актыўную грамадскую дзейнасць узнагародзіць начальніка фінансавага ўпраўлення Мінскага абласнога выканаўчага камітэта **Зайцава** Паўла Карпавіча Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ.**

17 чэрвеня 1996 г., г. Мінск.
№ 376-XIII.

### ПАСТАНОВА

**Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

**Аб узнагароджанні Савічава У. М. Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

За шматгадовую добрасумленную працу, актыўную дзяржаўную і грамадскую дзейнасць узнагародзіць старшыню Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па дзяржаўнаму будаўніцтву і мясцоваму самакіраванню **Савічава** Уладзіміра Мікалаевіча Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ.**

17 чэрвеня 1996 г., г. Мінск. № 377-XIII.

### ПАСТАНОВА

**Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

**Аб узнагароджанні Чачоры А. В. Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

За значны асабісты ўклад у развіццё рамонтна-будаўнічай вытворчасці ўзнагародзіць начальніка Магілёўскага абласнога праектна-рамонтна-будаўнічага аб'яднання **Чачору** Аляксандра Васільевіча Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ.**

17 чэрвеня 1996 г., г. Мінск.
№ 378-XIII.

### ПАСТАНОВА

**Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

**Аб узнагароджанні Петрыва М. І. Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

За шматгадовую добрасумленную працу, важкі асабісты ўклад у развіццё харчовай прамысловасці ўзнагародзіць дырэктара Рэчыцкага арэнднага піваваранага завода **Петрыва** Міхаіла Іванавіча Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ.**

17 чэрвеня 1996 г., г. Мінск.
№ 379-XIII.

# ААН і Чарнобыль

**На пытанні рэдакцыі газеты «Звязда» адказвае пастаянны прадстаўнік Рэспублікі Беларусь пры ААН Аляксандр СЫЧОЎ**

**— Аляксандр Мікалаевіч, як у нью-йоркскай штаб-кватэры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый адзначаўся юбілей чарнобыльскай катастрофы? Бо мы ў Мінску знаходзіліся ў асноўным пад уражаннем тутэйшых мерапрыемстваў і падзей з нагоды падрыхтоўкі і правядзення 10-годдзя Чарнобыля і далёка не ўсе ў нас сачылі за рэакцыяй у свеце на ўгодкі гэтай, без перабольшання, глабальнай катастрофы.**

— Як вядома, 50-я сесія Генеральнай Асамблеі ААН абвясціла па прапанове дэлегацый Беларусі, Расійскай Федэрацыі і Украіны 26 красавіка 1996 года Міжнародным днём памяці з нагоды 10-й гадавіны аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

У гэтай сувязі пастаянныя прадстаўніцтвы вышэйзгаданых краін пры ААН прапанавалі правесці ў цэнтральных установах ААН у Нью-Йорку спецыяльныя міжурадавыя мерапрыемствы, прысвечаныя гэтай трагічнай даце.

Ініцыятыва была падтрымана генеральным сакратаром ААН Б. Бутрасам Галі, які напярэдадні памятнай даты звярнуўся да міжнароднага супольніцтва з заклікам «працягваць і актывізаваць дапамогу Беларусі, Расійскай Федэрацыі і Украіне, каб магчыма было дабіцца значных перамен у жыцці тых, хто да гэтага часу пакутуе ад рук нябачнага ворага».

У праграму двухдзённых мерапрыемстваў, якія праходзілі пад дэвізам «Чарнобыль: дзесяць гадоў пасля», былі ўключаны правядзенне спецыяльнага пасяджэння краін — членаў ААН, пашыранага пасяджэння Чатырохбаковага камітэта ААН па каардынацыі міжнароднага чарнобыльскага супрацоўніцтва, фотавыстаўка і выстаўка дзіцячага малюнка, прагляд дакументальных фільмаў, канцэрт беларускай піяністкі і ўкраінскіх музыкантаў, дабрачынны кірмаш, прэс-канферэнцыя.

У штаб-кватэры ААН былі распаўсюджаны Зварот Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі ў сувязі з 10-й гадавінай катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, выступленні беларускага Прэзідэнта на Мінскай і Венскай канферэнцыях, прысвечаных чарнобыльскай аварыі.

Пастпрэд Беларусі прыняў удзел у шэрагу радыё- і тэleперадач, прысвечаных дзейнасці ААН па змякчэнню вынікаў чарнобыльскай аварыі, а таксама выступіў на міжнароднай канферэнцыі «Глабальнае партнёрства ў імя вырашэння глабальных праблем».

**— Маглі б вы крыху больш падрабязна расказаць аб нью-йоркскіх мерапрыемствах?**

— Цэнтральнай падзеяй міжнароднага дня памяці стала спецыяльнае мемарыяльнае пасяджэнне прадстаўнікоў краін — членаў ААН і міжнародных арганізацый, якое праходзіла ў зале, дзе экспануецца беларускі габелен «Чарнобыль». Хвілінай маўчання ўдзельнікі пасяджэння ўшанавалі памяць загінуўшых і бязвінных ахвяр чарнобыльскай аварыі. Выступаючы ад імя генеральнага сакратара ААН, яго намеснік па гуманітарных справах Я. Акашы заявіў, што ААН глыбока прыхільная да мэты аказання дапамогі ахвярам Чарнобыля. Старшыня 50-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН Д. Ф. дэ Амарал заклікаў міжнароднае супольніцтва выканаць маральны абавязак перад цяперашнімі народамі. Пастаянны прадстаўнік Беларусі пры ААН таксама звярнуўся да ўдзельнікаў пасяджэння з заклікам працягваць супрацоўніцтва для вырашэння складанага комплексу праблем Чарнобыля.

Імкненне міжнароднага супольніцтва садзейнічаць беларускаму народу, які нясе галоўны цяжар чарнобыльскай катастрофы, было пацверджана ў час пасяджэння Чарнобыльскага камітэта ААН. Аб намеры працягваць дапамогу пацярпеўшым краінам заявілі Еўрапейскі саюз, Германія, Канада, Сусветная арганізацыя аховы здароўя, Міжнародная федэрацыя Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца, Міжнароднае агенцтва па атамнай энергетыцы і іншыя ўдзельнікі пасяджэння.

Прадстаўнікі Японіі і Галандыі паведамілі аб рашэнні сваіх урадаў выдзеліць адпаведна 3 млн. і 200 тыс. долараў ЗША для пацярпеўшых жыхароў Беларусі.

Жывы водгук у прадстаўнікоў дыпламатычных місій, сакратарыята ААН, шэрага няўрадавых арганізацый і амерыканскіх грамадзян знайшоў чарнобыльскі дабрачынны кірмаш, сустаршынямі аргкамітэта якога выступілі жонкі пастаянных прадстаўнікоў Беларусі, Расіі і Украіны. Сродкі, атрыманыя ў выніку гэтай прапагандысцка-дабрачыннай акцыі, будуць накіраваны на дапамогу хворым дзецям у кожнай з трох краін.

**— Наша рэспубліка з-за шэрага суб'ектыўных прычын спазнілася са зваротам да сусветнай супольнасці аб дапамозе. А таму многія краіны сёння больш ахвотна спачуваюць і дапамагаюць хворым, галодным, нямоглым дзесяткам мільёнаў афрыканцаў і азіятаў (яны сапраўды жывуць у жудасных, нечалавечых умовах), чым ахвярам Чарнобыля. Наколькі моцныя падобныя настроі ў ААН? І што робіцца нашым прадстаўніцтвам і што можа зрабіць увогуле наша дзяржава, каб у свеце нарэшце зразумелі страшэнныя наступствы Чарнобыля для чалавецтва?**

— Сапраўды, у першыя пасля аварыі гады ступень нацыянальнай і міжнароднай «чарнобыльскай» транспарэнтнасці знаходзілася практычна на нулявой адзнацы. І, напэўна, па гэтай прычыне параўнальная ацэнка экспертаў ААН трансгранічнага «постчарнобыльскага» забруджвання навакольнага асяроддзя не змяшчала даных па Беларусі.

Упершыню краіны — члены ААН даведаліся аб маштабах і сур'ёзнасці для Беларусі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС вясной 1989 года. Удзельнічаючы ў той час у рабоце Еўрапейскай эканамічнай камісіі (ЕЭК) ААН, беларуская дэлегацыя, нягледзячы на сур'ёзныя пярэчанні з боку прадстаўнікоў былога Савецкага Саюза, прыцягнула ўвагу да вастрыні пастчарнобыльскіх праблем і заклікала міжнароднае супольніцтва аказаць дапамогу пацярпеўшаму насельніцтву Беларусі.

У далейшым нашым дыпламатам спатрэбілася прыкласці шмат намаганняў і сіл, каб ААН прызнала агульнапланетарны характар гэтай буйнейшай катастрофы сучаснасці і неабходнасць замацавання чарнобыльскай праблематыкі ў парадку працы Генеральнай Асамблеі і праграмнай дзейнасці яе органаў.

Цяпер ААН выступае каардынатарам міжнароднага супрацоўніцтва па вывучэнню, змякчэнню і мінімізацыі доўгатэрміновых вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС, а яе мабілізуючы патэнцыял даволі актыўна выкарыстоўваецца ў мэтах непасрэднай дапамогі пацярпеўшаму насельніцтву Беларусі.

Сёння, на жаль, мы бачым спробы некаторых краін і міжнародных арганізацый прыменшыць наступствы катастрофы, прадставіць падзеі дзесяцігадовай даўнасці як праблемы пацярпеўшых краін і вывесці іх разгляд на рэгіянальны ўзровень. Часам у гэтыя пытанні прыўносяцца палітычныя моманты, а праблемы ядзернай бяспекі адсоўваюць на другі план неабходнасць прыняцця доўгатэрміновай міжнароднай праграмы дзеянняў па вырашэнню гуманітарных, медыцынскіх і экалагічных наступстваў катастрофы, з якімі сутыкаюцца мільёны людзей, якія жывуць у забруджаных радыяцыяй раёнах.

Вось чаму галоўная задача — працягваць работу па інфармаванню сусветнага супольніцтва аб жахлівых выніках чарнобыльскай катастрофы, далейшай мабілізацыі міжнародных намаганняў і пошуку новых шляхоў вырашэння постчарнобыльскіх праблем.

Гэту мэту мела на ўвазе і правядзенне спецыяльных міжурадавых мерапрыемстваў у штаб-кватэры ААН у Нью-Йорку.

**— Ліквідацыя наступстваў Чарнобыля — гэта ў першую чаргу матэрыяльна-тэхнічная праблема. ААН сёння, як вядома, перажывае востры фінансавы крызіс і нам цяжка разлічваць на істотную матэрыяльную падтрымку з боку гэтай арганізацыі. Але ж трыбуна ААН па-ранейшаму самая аўтарытэтная ў свеце. Якім чынам можна яе выкарыстаць для прыцягнення ў Беларусь значных сродкаў шляхам рэалізацыі міжнародных праектаў і г. д.?**

— ААН выконвае важную каардынацыйную ролю па пашырэнню міжнароднага супрацоўніцтва ў сувязі з чарнобыльскай катастрофай пры выкананні праграм і канкрэтных праектаў, узаемадзейнічае з краінамі-донарамі, адпаведнымі шматбаковымі фінансавымі ўстановамі і няўрадавымі арганізацыямі.

Генеральны сакратар зноў звярнуўся з заклікам да дзяржаў-членаў працягваць і павялічваць дапамогу Беларусі, Расіі і Украіне па ліквідацыі наступстваў аварыі на ЧАЭС.

Зараз галоўным практычным пытаннем міжнароднага парадку дня на бліжэйшыя два гады з'яўляецца распрацоўка доўгатэрміновай стратэгіі вырашэння постчарнобыльскіх праблем. Спецкаардынатар ААН па Чарнобылю плануе стварыць праграму дзеянняў, мэтай якой з'яўляецца прыцягненне прамых інвестыцый у пацярпеўшыя раёны замест «бясконцай дапамогі», выкананне сумесных праектаў пацярпеўшых краін і зацікаўленых краін-донараў і арганізацый.

Новыя магчымасці таксама з'явяцца ў сувязі з адкрыццём прадстаўніцтва Дзіцячага фонду ААН у Мінску, у лік задач якога будзе ўваходзіць пошук знешняй дапамогі.

**— Безумоўна, істотнай падтрымкай нашага народа стала б зніжэнне членскіх узносаў Рэспублікі Беларусь у ААН і яе спецыялізаваныя арганізацыі, на асобныя ААНаўскія мерапрыемствы. Зэканомленыя грошы можна было б накіроўваць на ліквідацыю наступстваў Чарнобыля. І гэта быў бы важкі ўклад сусветнай супольнасці ў агульную справу. Як ставяцца ў ААН да гэтай праблемы?**

— Паніжэнне ўзносаў Рэспублікі Беларусь у рэгулярны бюджэт і на фінансаванне аперацый па падтрыманню міру (АПМ) з'яўляецца прыярытэтнай задачай. Як вядома, у 1992 годзе ўзровень узносу Беларусі па розных прычынах быў значна павялічаны. У выніку праведзенай у 1994 і 1995 гадах работы Генеральная Асамблея прыняла рашэнне аб значным скарачэнні ўзносаў Рэспублікі Беларусь у рэгулярны бюджэт ААН і на фінансаванне АПМ, якія даюць рэальную эканомію для нацыянальнага бюджэту толькі ў 1995—1997 гг. каля 33 млн. долараў ЗША. І гэта без уліку выплат у бюджэт спецустаноў і органаў сістэмы ААН. Такі практычны вынік нашай дзейнасці.

Прашу звярнуць увагу на тое, што ён быў дасягнуты ва ўмовах глыбокага фінансавага крызісу арганізацыі і ўзнікшых вострых супярэчнасцей паміж краінамі-членамі па пытаннях рэформы фінансавай сістэмы ААН.

**— У заключэнне інтэрв'ю хачу вярнуцца да таго, з чаго мы яго пачалі. Адна з асаблівасцей чалавечай памяці — з часам забываць дрэннае. Нешта падобнае назіраецца з Чарнобылем. Эфектыўна працістаяць гэтаму, у многім аб'ектыўнаму, працэсу можна, на мой погляд, аб'яднаўшы намаганні Беларусі з Расіяй і Украінай. Толькі разам гэтыя краіны могуць неяк уплываць на сусветную думку, не даць забыць увогуле Чарнобыль. Ці ўдалося наладзіць супрацоўніцтва ў гэтым накірунку?**

— Хаця Беларусь, Расія і Украіна маюць свае нацыянальныя інтарэсы, Чарнобыль для трох дзяржаў — агульная бяда і трагедыя. Ды і папярэдні вопыт і ўрокі пераконваюць у неабходнасці аб'яднання сіл і дзеянняў для дасягнення адзінай мэты — дапамагчы людзям, якія апынуліся ў бядзе, не дапусціць паўтарэння новых Чарнобыляў.

Зыходзячы з гэтага меркавання і будуецца дзейнасць пастаянных прадстаўніцтваў трох краін у Нью-Йорку.

У гэтым кантэксце важнай з'яўляецца работа па прасоўванню і рэалізацыі прапаноў Прэзідэнта Беларусі А. Р. Лукашэнкі па павышэнню эфектыўнасці міжнароднага супольніцтва ў галіне ліквідацыі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС, уключаючы стварэнне адзінага навуковага міждзяржаўнага цэнтра па чарнобыльскіх праблемах, усталяванне Фонду абароны планеты, адказнасці краін за ядзерны ўрон, прынесены іншым дзяржавам, і стварэнне адпаведнай міжнародна-заканадаўчай базы.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

# НАШ СЯБАР «АЛІСА»

**Мінск і невялічкі французскі гарадок Фёр, што за 80 кіламетраў ад Ліёна не маюць статусу гарадоў-пабрацімаў, але менавіта там знаходзіцца дабрачынная асацыяцыя «Аліса», якая супрацоўнічае з Беларускім таварыствам дружбы. Там жывуць людзі, якія спачуваюць нашаму народу, прапагандуюць наша мастацтва і расказваюць сваім суайчыннікам праўду пра Беларусь.**

А пачалося ўсё з таго, што спякотным летам 1991 г. у лагер пад Мінскам прыехалі французскія скаўты. З імі быў і ўрач Клод Пленье. Ён пазнаёміўся з нашымі ўрачамі, наведаў бальніцы і адчуў жах.

— Я нібы адкрыў для сябе незнаёмую планету пад назвай Беларусь, — потым апавядаў ён. — Больш за ўсё мяне ўразіў катастрафічны ўзровень медыцыны. Прафесары з сусветным імем працавалі з матэрыялам, якім карысталіся ў Францыі ў канцы мінулага стагоддзя. Не хапала медыкаментаў, абсталявання. Усё, што было ў мяне пры сабе, у лагеры, я аддаў 6-й мінскай бальніцы. І яшчэ мяне ўразілі людзі: гасцінныя, добразычлівыя.

Вярнуўшыся на радзіму, Клод пачаў збіраць медыкаменты, складзіраваць іх у сваім гаражы, а таксама вучыць рускую мову.

Паступова да групы ўрачоў, якая памагала Клоду, пачалі далучацца і іншыя людзі. Напрыклад, уладальнік сеткі магазінаў «Віва-Мод» Рэнэ Тамбуа, чалавек з шырокай душою і добрым сэрцам. Ён даў магчымасць захоўваць медыкаменты на адным з ягоных складоў, а таксама перадаў для нашай рэспублікі грузавік з адзеннем. Такім чынам, дзякуючы энтузіязму некалькіх людзей, у маленькім 8-тысячным гарадку Фёры з'явілася асацыяцыя «Аліса». Сёння ў ёй каля трыццаці чалавек і ёй дапамагаюць многія іншыя жыхары.

У ліпені 1992 г. доктар Пленье з жонкай і адной з дачок зноў накіраваўся ў Мінск з грузам гуманітарнай дапамогі. Аб тым, як развівалася супрацоўніцтва далей, расказвае загадчык аддзела Беларускага таварыства дружбы Леанід Бароўскі.

— З Клодам Пленье мы былі знаёмы яшчэ па рабоце з Ліёнскім аддзяленнем таварыства «Францыя—СССР». Яго планы стварыць дабрачынную асацыяцыю зацікавілі нас. Яны нам спадабаліся. У сваю чаргу мы прапанавалі запрасіць у Францыю беларускі самадзейны мастацкі калектыў, які б выступіў там з канцэртамі і такім чынам дапамог бы асацыяцыі. Клод расказаў пра гэта сваім сябрам, ідэя гэта ім спадабалася. І вось у снежні 1994 г. яны запрасілі да сябе ансамбль цымбалістаў «Ведрыца».

Паездка была кароткай, усяго пяць дзён. Ніхто з нас тады не ведаў, што з гэтага атрымаецца. Але ўжо першыя канцэрты прайшлі з велізарным поспехам, наладзіліся сяброўскія кантакты. Калі «Ведрыца» прыехала туды ў маі 95-га года, актывісты «Алісы» праявілі неверагодныя энтузіязм і актыўнасць пры арганізацыі турнэ. Было сабрана каля 4 тыс. долараў, на якія набылі медыцынскае абсталяванне і перадалі яго рэспубліканскаму дзіцячаму санаторыю ў Астрашыцкім Гарадку ў прысутнасці дэлегацыі «Алісы» і пасла Францыі Клода Жаліфа.

Сёлета вясною ансамбль «Ведрыца» зноў з велізарным поспехам выступіў у Францыі, а ў маі актывісты «Алісы» ў наступны раз прыехалі ў Мінск і перадалі ўжо знаёмаму дзіцячаму санаторыю 5,5 тыс. долараў, медыкаменты і медыцынскае абсталяванне.

Дарэчы, канцэрты «Ведрыцы» тады прыцягнулі ўвагу і французскіх журналістаў. Карэспандэнт радыёстанцыі «Еўропа-2» у пачатку нашай размовы аб гаротным стане рэспублікі скептычна заявіў: «Усе краіны скардзяцца». Але паступова ягоны скептыцызм змяніўся шчырай зацікаўленасцю, а прыведзеныя факты аб выніках чарнобыльскай катастрофы і жахлівыя лічбы сталі для яго сапраўднай сенсацыяй.

І, вядома ж, яго ўразіла віртуозная ігра артыстаў. І вось «Еўропа-2» цэлы тыдзень у сваіх перадачах гаварыла і пра Беларусь.

А нядаўна з Фёра вярнуўся знакаміты беларускі мастак Георгій Паплаўскі. Дом дружбы і асацыяцыя «Аліса» арганізавалі там яго персанальную выстаўку, якая вельмі спадабалася французам.

Цяпер асацыяцыя «Аліса» рыхтуецца да новага падарожжа ў Мінск, якое плануецца на кастрычнік.

**Іна ЗУБ.**

# ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Шэран Стоўн, заходняя кіназорка, выходзіць замуж. 38-гадовая «зорка», якую многія лічаць ідэалам жанчыны 90-х гадоў, прызналася: больш за ўсё на свеце яна хоча мець мужа і дзіця.

Яе мара хутка здзейсніцца. Згодна з планам, ужо летам Шэран скажа шчаслівае «так» рэстаўратару Брэду Джонсану. Зразумела, Стоўн і на гэты раз не адраклася ад самой сябе: яна прадумала ўсе дэталі будучага жыцця. Актрыса бярэ на сябе цяжар утрымання сям'і, а хатнія абавязкі кладуцца на Джонсана — ён будзе весці дом і толькі ў вольны час працаваць па спецыяльнасці.

**ЭКСТРА-ПРЭС.**

Што мацней: кларнет або гітара? Спаборніцтва паміж імі не па якасці, а па колькасці арганізавалі музыканты іспанскай правінцыі Валенсія. Яны сабралі разам 2500 кларнетыстаў, якія выканалі «Гімн радасці» Бетховена і марш «Валенсія» мясцовага кампазітара Падзільяа. Адміністрацыя правінцыі накіравала адпаведную заяўку ў Кнігу рэкордаў Гінеса.

Кларнетысты Валенсіі пераўзышлі музыкантаў з канадскага горада Ванкувера, якія арганізавалі канцэрт з удзелам «толькі» двух тысяч гітарыстаў.

**ІТАР-ТАСС.**

Дэпутат ад апазіцыі Фу Канчэн, калі дэпутат ад кіруючай партыі Шэн Ціхуі схапіла яго папку, папярэдзіў: «Аддай, а то будзе горш!» — пасля чаго ўкусіў яе за руку, а потым ударыў нагой. Дзікі выпадак у Нацыянальным сходзе Тайваня? Не, нешта падобнае адбываецца там часта. Адна з газет піша: «Сход набыў сусветную рэпутацыю «гладыятарскай арэны». Крэслы, мікрафоны, кулакі, а цяпер і зубы служаць там сродкам для сцвярджэння».

**«Чайна ньюс».**



# ГАНОВЕРСКАЕ «АКНО» Ў ЕЎРОПУ

У будучым годзе гановерскія выстаўкі будуць адзначаць 50-годдзе з дня заснавання. У юбілейным кірмашы рыхтуюцца ўдзельнічаць беларускія прадпрыемствы і вытворчыя фірмы, якія ўжо за апошніх некалькі гадоў на ўласным вопыце адчулі карысць дэманстрацыі сваёй прадукцыі на буйнейшых у свеце выставачных плошчах. Нашы прамыслоўцы і прадпрымальнікі ў Гановеры, дзе звычайна на час выставак збіраецца тэхнічная эліта планеты, здолелі завязаць шматлікія карысныя кантакты і заключыць выгадныя кантракты.

Сёлета, як вядома, у Гановеры з поспехам прайшлі Дні эканомікі Беларусі, у рамках якіх адбылося пасяджэнне Беларуска-германскага кааперацыйнага савета па эканамічнаму супрацоўніцтву. Дні сталі новым стымулам для прасоўвання прадукцыі нашых прадпрыемстваў на заходнія рынкі, стварэння СП, падпісання дагавораў аб правядзенні сумесных работ. Сёння шэраг прадпрыемстваў Беларусі розных формаў уласнасці рыхтуюцца да чарговых выставак у Гановеры.

**Леанід ТУГАРЫН.**

***На здымку:** панарама цэнтра гановерскага кірмашу.*

# «АД ПРАДЗЕДАЎ СПАКОН ВЯКОЎ НАМ ЗАСТАЛАСЯ СПАДЧЫНА...»

Гісторыя, як вядома, — навука аб мінулым. І каштоўнасць яе якраз у тым, што яна аднолькава нейтральна адлюстроўвае і радаснае, і трагічнае ў жыцці народа. Прынамсі, так павінна быць. На жаль, да гэтага часу ў мінулым нашай Бацькаўшчыны захавалася яшчэ не адна «белая пляма». Ва ўгоду часу ці правіцелям гісторыя беларускага народа не аднойчы перапісвалася. Пад нож цэнзара ад ідэалогіі або ў архівы ішлі каштоўныя дакументы. Многія з іх, на жаль, ужо страчаны назаўсёды. Таму асаблівую каштоўнасць зараз, калі айчынныя навукоўцы і даследчыкі прыкладаюць усе намаганні да аднаўлення нашых каранёў, выдання розных энцыклапедый і даведнікаў, набываюць любыя матэрыялы (здымкі, дакументы, сведчанні сучаснікаў) тых гадоў.

Гэтыя малюнкі былі зроблены ў мястэчку Смілавічы ў канцы 20-х гадоў Вячаславам Аляксандравічам Шыдлоўскім, ураджэнцам вёскі Карзуны цяперашняга Чэрвеньскага раёна. Скончыўшы смілавіцкую сямігодку, ён пэўны час працаваў сакратаром мясцовага Савета. Маляваў больш для сябе, для душы (хаця і спрабаваў паступіць у мастацкае вучылішча, але няўдала). З 1948 года да выхаду на пенсію (зараз Вячаслаў Аляксандравіч жыве ў Мінску) працаваў у Белгідрагеалогіі. Магчыма, паўплывала прафесія, бо, ужо пасталеўшы, малады чалавек яшчэ больш захапіўся вывучэннем і даследаваннем гісторыі родных мясцін: збіраў дакументы, фатаграфаваў. Зразумела, не ўсё з архіва захавалася да нашага часу. Але і нешматлікія дакументальныя сведчанні ўяўляюць каштоўнасць, сапраўдны скарб для навукоўцаў. Так, па малюнках Шыдлоўскага былой панскай сядзібы Ваньковічаў адзін час рэстаўратары збіраліся аднаўляць гэты старажытны будынак у пасёлку, але работам перашкодзіла эканамічная нестабільнасць.

Але як бы там ні было — гэта наша гісторыя, наша спадчына. Хто памятае аб каранях — той мае будучыню!

**Сяргей РАСОЛЬКА.**
**Фотарэпрадукцыі аўтара.**





# КАНАДСКІЯ СТАМАТОЛАГІ ВУЧАЦЬ БЕЛАРУСКІХ КАЛЕГ РАБІЦЬ ПРЫГОЖАЙ ДЗІЦЯЧУЮ ЎСМЕШКУ

Што такое зубны боль, на жаль, ведае практычна кожны дарослы чалавек. Цалкам здаровыя зубы ў сталым узросце — гэта хутчэй за ўсё рэдкае выключэнне, чым правіла нашага жыцця. Удумайцеся — прыкладна 100 (!) працэнтаў дарослага насельніцтва Беларусі пакутуе ад карыесу. З кожнай тысячы дарослых грамадзян на сённяшні дзень 600 маюць страчаныя зубы і толькі 10 (!) чалавек з іх на працягу года ставяць сабе ўзамен штучныя, а астатнія 590 так і застаюцца з дзіркамі ў роце да канца жыцця. Не лепшае становішча з захворваннем зубоў і ў дзетак — ад зубнога болю яны пачынаюць пакутаваць ледзь не з... калыскі. Па назіраннях беларускіх стаматолагаў, дзіцячы карыес актыўна заяўляе аб сабе ўжо ў 1,5—2-гадовым узросце. З якімі зубамі хлопчыкі і дзяўчынкі сустракаюць свой дзесяты або дванаццаты дзень нараджэння — няцяжка ўявіць. Не выпадкова канадскія медыкі, абследаваўшы некалькі гадоў таму назад дзетак, што праходзілі аздараўленне за мяжой у рамках чарнобыльскай праграмы, літаральна жахнуліся: стан іх зубоў быў падобны на той, што назіраўся ў Канадзе ў іх аднагодкаў ажно ў 1950 годзе! Гэта для канадскіх стаматолагаў было настолькі неверагоднай з'явай, што напачатку яны былі ледзь не ўпэўнены ў тым, што за мяжу спецыяльна накіроўваюцца самыя хворыя дзеці, каб іх там палячылі. Усхваляваныя медыкі прапанавалі беларускаму боку сумесна абмеркаваць праблему дзіцячай стаматалогіі ў краіне, стан навуковых даследаванняў на адпаведнай кафедры Мінскага медыцынскага інстытута, яе аснашчанасць неабходным абсталяваннем і літаратурай, метады лячэння.

Тры гады назад Беларусь упершыню наведалі загадчык кафедры дзіцячай стаматалогіі і артаданты універсітэта Заходняга Антарыа (г. Лондан, Канада) прафесар Джэры Райт і пяцёра выкладчыкаў. Канадцы на свае вочы ўбачылі, у якім цяжкім стане знаходзіцца ў нашай краіне гэтая галіна медыцыны ўвогуле і дзіцячая стаматалогія — у прыватнасці. Таму, вярнуўшыся дадому, яны стварылі дабрачынны камітэт па дапамозе Беларусі менавіта ў гэтай галіне. Пры чарговым наведванні прафесарам Райтам Мінска з нашым мედінстытутам быў узгоднены і заключаны сумесны пяцігадовы праект, накіраваны на паляпшэнне падрыхтоўкі стамалагічных кадраў у рэспубліцы. У прыватнасці, ён прадугледжваў стажыроўку беларускіх выкладчыкаў у Канадзе за кошт запрашаючага боку. Але паколькі ўсіх спецыялістаў адправіць за мяжу немагчыма (гэта вельмі дорага), па прапанове прафесара Райта ў Мінску на базе Рэспубліканскай стаматалагічнай паліклінікі для часткі выкладчыкаў медінстытута быў арганізаваны двухтыднёвы семінар. Іншымі словамі, за вучобу ўзяліся тыя, хто сам вучыць студэнтаў.

Падчас семінара карэспандэнт «Звязды» сустрэўся з кіраўнікамі праекта — прафесарам, доктарам медыцынскіх навук, загадчыкам кафедры стаматалогіі дзіцячага ўзросту Мінскага медінстытута Эдуардам Мельнічэнкам і яго канадскім калегам, прафесарам Джэры Райтам, папрасіўшы іх расказаць як аб самім семінары, так і ўвогуле аб ходзе рэалізацыі і перспектывах сумеснага праекта ў галіне дзіцячай стаматалогіі.

**Прафесар Мельнічэнка:** «Праект нашага супрацоўніцтва пачаўся з дзіцячай стаматалогіі, але, як мяркуецца, у далейшым ён будзе пашыраны і закране такія галіны, як імуналогія, анкалогія і іншыя. Мы вельмі ўдзячныя канадскім калегам, якія праводзяць з нашымі выкладчыкамі тэарэтычныя і практычныя заняткі, вучаць іх працаваць па новых тэхналогіях і новымі метадамі. Плануецца, што ўсяго такую перападрыхтоўку з нашага боку пройдуць 50 чалавек».

**Прафесар Райт**: «Мы спрабуем стварыць узорную клініку, якая б была прыкладам для іншых і дазваляла вучыць студэнтаў на сучасным узроўні. Наша задача — паказаць, як гэта трэба рабіць. Нас падтрымалі (у тым ліку і матэрыяльна) канадскі ўрад, беларуская дыяспара ў Канадзе, Фонд Сораса, мноства простых людзей. Другі вельмі важны момант — прафілактыка. І пачынаць тут трэба менавіта з дзяцей, у якіх зубы яшчэ не паспелі сур'ёзна сапсавацца. У 1950 годзе ў Канадзе была сітуацыя, падобная на вашу зараз. Але дзякуючы прафілактыцы мы дабіліся таго, што праз 40 гадоў у 75 працэнтаў дзесяцігадовых дзетак карыесу няма наогул!»

**Прафесар Мельнічэнка**: «Сітуацыя з дзіцячым карыесам у краіне сапраўды несуцяшальная. Звязана гэта найперш з тым, што ў пітной вадзе вельмі малое ўтрыманне асноўнага будаўнічага матэрыялу зубоў — фтору і кальцыю. Не выпадкова яшчэ ў 1986 годзе была зацверджана праграма прафілактыкі карыесу ў дзяцей, якая разлічвалася на 20 гадоў. Яна прадугледжвала фтараванне вады, прымяненне фтарыстых таблетак і іншых прэпаратаў, барацьбу з «салодкім жыццём». І ўжо праз некалькі гадоў праграма дала плён: калі ў 1986 годзе ў нашых 12-гадовых дзяцей было ў сярэднім па 4 хворыя зубы ў кожнага, то праз пяць гадоў у іх аднагодкаў — на адзін зуб менш! На гэтую справу дзяржава давала грошы, пісаліся адпаведныя загады. Але знікла камандная сістэма — і ўсё вярнулася да старога: у 1995 годзе ў 12-гадовых дзяцей зноў былі па чатыры хворыя зубы...

Нядаўна пачуў лічбы, якія асабіста мяне, як стаматолага, вельмі абрадавалі: за апошні час у нашай краіне значна скарацілася спажыванне цукру. Зразумела, гэта не вырашэнне праблемы, але... Раю тым жа бацькам: замест «Марса» ці «Снікерса» купіце свайму дзіцяці яблыкаў, апельсінаў ці нават бананаў — карысць, паверце, будзе куды большая ў выглядзе прыгожай, а, галоўнае, натуральнай усмешкі вашага сына або дачкі».

**Сяргей РАСОЛЬКА.**
**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**



**На здымку**: прафесары Д. Райт і Э. Мельнічэнка падчас правядзення семінара.



*КУТОК КАЛЕКЦЫЯНЕРА*

# ПОШТА НА МАГІЛЁЎШЧЫНЕ

Пра пошту на Магілёўшчыне вядома далёка не ўсё. Гісторыя гэтай службы ў Прыдняпроўі сваімі каранямі сягае ў сівую даўніну. Сабраны асобныя звесткі, ёсць некаторыя даныя, але цэласнага апавядання, поўнай гісторыі пошты на Магілёўшчыне пакуль няма.

... У студзені 1667 года ў мястэчку Андрусава (цяпер Смаленская вобласць) было заключана перамір'е паміж Расіяй і Польшчай. Па адным з пунктаў дзяржаўнага дагавора вырашана было арганізаваць рух пошты паміж дзяржавамі. Пошта гэтая, названая Віленскай, была заснавана 14 снежня 1667 года. Яна ішла ад Масквы праз Смаленск да мястэчка Мінгавічы ў Смаленскім ваяводстве, праз польскую граніцу ў мястэчка Кадзін Мсціслаўскага ваяводства і далей на Мінск і Вільна праз Магілёў. Гэта пошта перавозіла не толькі «листы государские», але і прыватныя, гандлёвыя за пэўную плату. Працавала гэтая пошта не вельмі рытмічна і, да таго ж, нядоўга.

Таму ўжо ў 1685 годзе быў заключаны новы дагавор аб пошце паміж пасольскім прыказам Расіі ў асобе Андрэя Вініўса і Генеральным паштмайстрам Вялікага княства Літоўскага Р. Бісінгам. Паводле новага пагаднення, пошта ад прускай граніцы праз Вільна, Мінск, Магілёў і Кадзін дастаўлялася ў Маскву. У Магілёве ў той час існаваў паштовы двор, меліся паштовыя павозкі, іншае па тым часе паштовае абсталяванне і, зразумела, паштовыя служачыя.

У час руска-шведскай вайны 1700—1721 гг. па ўказу цара Пятра І у Беларусі будаваліся новыя паштовыя дарогі і станцыі. Рэформы Пятра І закранулі і пошту. Цару патрэбна была надзейная і трывалая сувязь, важныя былі звесткі з Беларусі. Для гэтага ў тэрміновым парадку будаваліся, паляпшаліся паштовыя дарогі і станцыённыя дамы. У снежні 1707 года прайшла першая пошта па пабудаванаму капітанам Г. Зезявітавым «со солдаты» тракту з Барысава ў Быхаў праз Копысь і Магілёў. Да канца 1708 года паштовыя тракты злучылі праз Магілёў, Быхаў і Копысь — Віцебск з Чарнігавам і Кіевам. У 1711 годзе на паштовых трактах Вялікія Лукі—Віцебск—Магілёў—Гомель, Магілёў—Бабруйск—Мінск на ўсіх паштовых станцыях салдаты, якія абслугоўвалі часовыя ваенныя пошты, былі ямшчыкамі. Пошты сталі пастаяннымі, грамадзянскімі. Па паштовых дарогах Магілёўшчыны развозіліся не толькі казённыя і прыватныя пісьмы, але і газеты. Упершыню пачалі рассылаць газеты, як рускія, так і замежныя, па паштоваму тракту Санкт-Пецярбург—Пскоў—Магілёў. У «Санкт-Петербургских ведомостях» ад 18 снежня 1772 года была надрукавана аб'ява, што ў Магілёве на 1773 год газета будзе каштаваць 6 рублёў.

Усё сказанае вышэй не азначае таго, што раней на Магілёўшчыне не было ні паштовых трактаў, ні самой пошты. У пачатку XVIII ст. у Вялікім княстве Літоўскім (ВКЛ) былі тры галоўныя паштовыя тракты, ад якіх у розныя канцы разыходзілася мноства паштовых дарог другога разраду. Цэнтрам усіх гэтых трактаў была Вільня.

У 1717 годзе варшаўскі сейм зацвердзіў расклад паштовых трактаў ВКЛ. Адзін з іх ішоў «па Biala Rus przez Minsk i Mohylow do granic moskiewskich». Прычым сейм зацвердзіў пастанову, па якой гэты тракт абслугоўваўся коннымі паштальёнамі. У 1752 годзе ў горад Люблін прыходзіла пошта «літоўская з Брэста, Гродні, Вільні і Магілёва».

На дарогах Магілёўшчыны ў канцы 70-х гадоў XVIII ст. паявіліся новыя паштовыя станцыі. У «Почтовом дорожнике» за 1777 год паведамлялася, што ў беларускіх губернскіх гарадах (з 1772 г. Магілёў у складзе Расіі) адкрыты паштамты (1776 г.) і назначаны паштмайстры. Магілёўскім паштамтам кіраваў Міхаіл Шэйба, мсціслаўскім — Антон Фішар. У 1779 г. беларускі губернатар і полацкі намеснік атрымалі ўказанні аб заснаванні поштаў ад Санкт-Пецярбурга да Кіева праз Магілёўскую губерню.

У першай палове XIX ст. (чэрвень, 1837 г.) у Магілёўскай губерні была створана земская пошта. Быў складзены падрабязны расклад для ўсіх пунктаў, куды завозілася пошта, вызначана колькасць ямшчыкоў і коней у гэтых пунктах, а таксама ўведзены ўлік так званых гаспадароў — тых, хто за плату аддаваў земству сваіх коней для развозкі пошты. У кожным такім пункце ямшчыкі мянялі коней. Па Магілёўскаму павету пошта правозілася наступным маршрутам: Магілёў—Шклоў— 32 вярсты, у Шклове ямшчыкі мянялі коней; ад Шклова да сяла Тубышкі — 20 вёрст; ад с. Тубышкі да м. Цяцерын праз м. Круглае — 20 вёрст, ад Цяцерына праз м. Галоўчын да м. Княжыцы — 30 вёрст і ад Княжыц да Магілёва — 13 вёрст. На кожным з гэтых этапаў ямшчыкі мянялі коней.

Калі з'явіліся першыя паштовыя маркі і штэмпелі — пачаўся новы этап у развіцці пошты на Магілёўшчыне.

**Рубрыку вядзе Леў КОЛАСАЎ.**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.
Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».
ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносін — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98.
ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100288. Індэкс 63850.
Зак. № 3141.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.